ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№45 (2499)

7 лістапада 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

## ІТАЛЬЯНСКІ ОРДЭН ВАСІЛЮ БЫКАВУ



**Імя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ўжо некалькі дзесяткаў гадоў вядомае ва ўсім свеце. Гэтая вядомасць прыйшла да пісьменніка дзякуючы яго творам, яго чалавечай і грамадзянскай пазіцыі ў адносінах да падзей, якія адбываюцца ў грамадстве. Сёння імя Васіля Быкава асацыіруецца з нацыянальным адраджэннем, з незалежнасцю нашай краіны, з барацьбой за правы чалавека. І таму не дзіўна, што менавіта цяпер, у гэты складаны палітычны час, у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джан Лука Берцінета ўручыў ордэн Італьянскай Рэспублікі "За заслугі" народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву. Гэтая ўзнагарода, па словах пісьменніка, — знак прызнання беларускай нацыі, беларускай літаратуры, беларускай культуры.**

НА ЗДЫМКУ: Васіль БЫКАЎ і Джан Лука БЕРЦІНЕТА.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

*МІКАЛАЙ ШЧАКАЦІХІН — АСОБА СВЕТЛАЯ І МАГУТНАЯ*

## ДОБРААХВОТНЫ СЫН БЕЛАРУСІ

1 кастрычніка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шчакаціхіна, добраахвотнага сына Беларусі. Вучоны найвышэйшага кшталту, асоба выключнага маштабу, ён заклаў падмуркі нашага нацыянальнага мастацтвазнаўства. Многія даследчыкі трымаюцца думкі, што плён ягонае працы варты намаганняў цэлага інстытута, а ўзровень яе не перасягнуты і да гэтага часу. Мікалай Шчакаціхін даследаваў помнікі архітэктуры Беларусі, гравюры Ф. Скарыны і В. Вашчанкі. У полі яго прафесійных інтарэсаў была нумізматыка і іканапіс Беларусі. Ён падрыхтаваў рукапіс працы па гісторыі літоўскай манеты XVI—XVII стагоддзяў. Ён першы патлумачыў прыроду прынцыповага адрознення іканапісу Беларусі і Старажытнай Русі. Ім напісана безліч выдатных артыкулаў, задумана 5 тамоў "Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва", але толькі адзін з іх пабачыў свет.

Бліскучы эрудыт, знаўца многіх еўрапейскіх моваў, выпускнік Маскоўскага універсітэта, ён прыехаў у Мінск у 1921 годзе. Працаваў у БДУ, Акадэміі навук, Беларускім дзяржаўным музеі, браў удзел у стварэнні І-й Усебеларускай мастацкай выставы. Масквіч з рафінаванага культурнага асяроддзя, ён з 1925 года стаў пісаць працы і чытаць лекцыі на дасканалай беларускай мове, а ў графу "нацыянальнасць" запісваць "беларус"!



1896–1940

(Заканчэнне на 7-й стар.).

БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА

## «А МЫ ЗАСТАЛІСЯ САБОЮ...»

Мы сядзелі за кубкам гарбаты. З маім земляком Расціславам Мацешуком мы сустрэліся выпадкова, едучы ў так званае блізкае замежжа, чым цяпер сталася агульная для нас Бацькаўшчына. Расціслаў Уладзіміравіч распавядаў пра сваё жыццё.

— Саракавыя недарма калісь празвалі ракавымі. І хоць з ранку да вечара па радыё гучала бадзёрая музыка: "Всё выше, и выше, и выше", старыя бабулі ўсё часцей і часцей гаварылі адна адной аб тым, што чулі ці самі бачылі нядобрыя прыкметы. А Ціханіха, наша суседка, сказала маёй бабулі па страшэннаму сакрэту: "Ціхан мой выйшаў ноччу на двор і вярнуўся ў хату весь збялелы, запаліў свечку ды стаў маліцца. "Што з табою?" — пытаюся. А ён кажа: "Маўчы, будзе вялікае гора, вайна будзе. На ўвесь небасхіл чырвоны крыж, мне дзед мой, нябожчык, казаў, што такое было ў 1812 годзе".

У тыя перадваенныя гады закончыў я Віцебскі медінстытут, — працягваў Расціслаў Уладзіміравіч. — Больш за ўсё мяне цягнула да хірургіі, гэта мабыць ад бацькі, бо ён таксама быў хірургам. Але папрацаваць пасапраўднаму, прайсці практыку фактычна не давялося. Вайна ўсё перамяніла. І стаў я камандзірам санітарнай роты. Пра вайну чытайце лепей Канстанціна Сіманава: там усё праўда.

Мой спадарожнік неяк сцяўся, змоўк. Далейшая гутарка аніяк не складвалася: ён неўпрыкмет пераходзіў на іншыя тэмы. Адчувалася, што цяжкі камень вайны да гэтай пары ціснe яго душу. Вайна — гэта смерць, а смерць і доктар — антыподы. І ўсё, што звязана з вайною, неяк закалынвала яго душу.

Без ахвоты ён расказваў, што ўдзельнічаў у баях за Ліду, Мінск, Смаленск. У снежні 1941 года трапіў у нямецкі палон, больш ваяваць не давялося. Яго зброяй стаў скальпель. Лячыў, згодна з клятвай Гіпакрата, усіх, хто гэтага патрабаваў, і сваіх, і чужых. Адлюўшы халодная гарбаты, мой сусед па купэ адхіліў фіранку і задумліва пазіраў на прабягаючыя заснежаныя палі.

Твар яго пасуровеў, можа, успомніліся іншыя снягі. Снег, ён усюды снег. Але той, што ўвайшоў у жыццё як частка агульных пакут, мае мабыць іншы колер. Гэтым снегам не гуляюць у снежкі, бо ён асацыіруецца з колерам смерці. За ім ужо пустата. Як хірург, ён гэта бачыў штодзённа. Снег, скаваны мерзлотаю тундры, абнесеная калючым дротам, быў шэрым, як твар мерцвяка.

Гэта ж трэба так уладкаваць зямлю, каб адной краіне дасталіся цэлы архіпелаг ГУЛАГ, яго б цалкам хапіла для пакарання грэшнікаў усіх планет.

Аб чым маўчаў Расціслаў Мацешук, пазіраючы ў вагоннае акно, застанецца для мяне таямніцай мабыць назаўсёды. Праз хвіліну, адкаркоўваючы пляшку з віном, ён неяк загадкава ўсміхнуўся і загаварыў пра тое, як добра, што вялікі снег выпаў, якая цёплая коўдра зараз укрывае зялёную рунь, і пра тое, як ён любіць восенню ісці скрозь залацістае жытняе поле.

Я ж, кранутый небывалай сціпласцю, духоўнай сілай і святлом гэтага чалавека, вырашыў абавязкова пазнаёміцца бліжэй, пагрэцца каля яго душы, бо толькі гэта ратуе сёння ад чорных сіл, што вірююць па ўсёй краіне. І вось што я даведаўся, як кажуць, з пабочных крыніц. Яго жонка, пані Орыся, распавядала.

У нямецкім палоне ён прабыў з снежня 1941 па красавік 1945 года. Вызвалены нашымі наступаючымі войскамі, вярнуўся на радзіму, да бацькоў. А хутка адсвяткавалі і Перамогу. Здавалася, усё, пастаўлены крыж на вайне і на тым страшэнным жыцці. Хаця ніколі: ні ў тых баях, ні ў тым палоне — не пакрывіў душою Расціслаў ні перад Радзімай, ні перад сваім сумленнем. Ваяваў па прысязе, лячыў згодна з клятвай Гіпакрата.

У Яраслаўлі, куды ў вайну накіравалі яго бацьку, вядомага беларускага хірурга, доктара медыцынскіх навук прафесара Мацешука Уладзіміра Паўлавіча для арганізацыі там медыцынскага інстытута, ён уладкаваўся на працу ў клініку. Маці, Кацярына Міхайлаўна, біяхімік па адукацыі, не толькі дапамагала яму прафесійна, а і лячыла, абагравала пакалечаную вайною душу сына.

Усё ўставала з руін, будавалася. Але разам з тым "поўнасцю перамогшы сацыялізм" у СССР, аб чым было заяўлена ў сталінскай Канстытуцыі, не мог задаволіцца дасягнутым. Пачалася

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ**

**Шаноўныя чытачы!**

**Працягваецца падпісная кампанія на 1997 год.**

**Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.**

**Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 30 лістапада.**

**Кошт падпіскі:**

**на 1 месяц — 6 тысяч рублёў**
**на 3 месяцы — 18 тысяч рублёў**
**на 6 месяцаў — 36 тысяч рублёў.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ГАЗАПРАВОД «ЯМАЛ — ЕЎРОПА»*



**23 кастрычніка ў мястэчку Збочна каля Слоніма на беларускім участку трансканцінентальнага газапровода "Ямал — Еўропа" адбылася зварка першага стыку. Прадукцыйнасць гэтай газавай артэрыі, якая працягнецца на больш чым 4 тысячы кіламетраў праз Расію, Беларусь, Польшчу і Германію, будзе амаль 70 мільярдаў кубаметраў прыроднага газу ў год. Газавая артэрыя з паўночных радовішчаў Расіі ў Еўропу дасць Беларусі не толькі працу людзям, але яшчэ і газ, 14 мільярдаў кубаметраў якога штогод спажывае наша дзяржава.**

**У мерапрыемствах прынялі ўдзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, прэзідэнт расійскага акцыянернага таварыства "Газпром" Рэм Вяхіраў, міністр паліва і энергетыкі Расійскай Федэрацыі Пётр Радзівонаў, дэлегацыі Польшчы і Германіі.**

**НА ЗДЫМКУ: зварка першага стыку міжкантынентальнага газапровода "Ямал — Еўропа".**

*"Удзельнікі першага ў гісторыі Усебеларускага народнага сходу, якія прадстаўлялі мільёны грамадзян з усіх рэгіёнаў краіны, падтрымалі палітычны курс Прэзідэнта, яго ініцыятыву аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму, змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, адобрылі прапанаваную Прэзідэнтам Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця на 1996—2000 гады.*

*Як кіраўнік дзяржавы, я ўлічу ў сваёй штодзённай практычнай дзейнасці вынікі ўсенароднага абмеркавання праектаў гэтых дакументаў, канструктыўныя прапановы і крытычныя заўвагі грамадзян, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, дзяржаўных органаў.*

*Народнае веча заклікала мяне прадоўжыць пошук для дасягнення кампрамісу і агульнанацыянальнай згоды, аслаблення і знішчэння канфрантацыі ў палітычным жыцці. Сход пацвердзіў, што здаровыя сілы грамадства ўсёй душой стаяць за захаванне міру і спакою ў краіне, настроены на стваральную работу ў імя будучыні сваіх дзяцей і ўнукаў. Для дасягнення гэтай высакароднай мэты я раблю і буду рабіць усё, што ад мяне залежыць. Поле для кампрамісу яшчэ існуе, і я чакаю сустрэчнага кроку з боку маіх палітычных апанентаў. Мы проста асуджаны жыць у міры і згодзе. Асуджаны воляй беларускага народа, які, як гэта і запісана ў Канстытуцыі, з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады".*

*(Са Звароту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ да грамадзян краіны).*

*«ФАКЕЛ БІРМІНГЕМА»*

## УЗНАГАРОДА І ЗАПРАШЭННЕ

**Магілёўскае вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно" ўдастоена прэстыжнай узнагароды "Факел Бірмінгема", заснаванай "Піпл Ту Піпл Інтэрнэшнл" у рамках міжнароднага праекта пад назвай "За паспяховае эканамічнае выжыванне і развіццё".**

**Разам з узнагародай кіраўніцтва аб'яднання атрымала запрашэнне выканаўчай дырэкцыі гэтай вядомай у свеце арганізацыі стаць паўнапраўным удзельнікам яе юбілейных акцый. "Піпл Ту Піпл Інтэрнэшнл", заснаваная амерыканскім прэзідэнтам Эйзенхаўэрам, святкуе сваё саракагоддзе.**

*ЖЫЛЛЁ ДЛЯ ВЯСКОЎЦАЎ*

## ДЗЯРЖАЎНЫ КЛОПАТ

**Ужо ў гэтым годзе на прадастаўленне субсідый грамадзянам, што стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, і тых, хто будуе жылыя дамы (кватэры) у сельскай мясцовасці, Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь павінна накіраваць не менш 150 мільярдаў рублёў. Гэта бюджэтныя сродкі, прадугледжаныя пастановай Кабінета Міністраў "Аб дадатковых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва на вёсцы".**

**Таксама пастановай урада з 1 верасня прыпыняецца спагнанне падаткаў і непадатковых плацяжоў (акрамя абавязковых узносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне) з суб'ектаў гаспадарання, якія ажыццяўляюць будаўніцтва дамоў і кватэр для калгасаў, саўгасаў і іншых сельгаспрадпрыемстваў.**

**Урад прадугледжвае таксама продаж насельніцтву па льготных цэнах недабудаваных дамоў і бязвыплатную перадачу іх тым, хто пастаянна жыве ў сельскай мясцовасці і мае вострую патрэбу ў жыллі.**

*ЮБІЛЕЙ УНІВЕРСІТЭТА*



**31 кастрычніка ў тэатры оперы і балета адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 75-годдзю Белдзяржуніверсітэта. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, госці з далёкага і блізкага замежжа, выпускнікі розных гадоў.**

**НА ЗДЫМКУ: у час урачыстага сходу.**

*РЭКВІЕМ*



**23 кастрычніка ў Мінску на славутай "Яме" па вуліцы Заслаўскай адбыўся жалобны мітынг, прысвечаны памяці яўрэяў, што загінулі ў час другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. У час акупацыі на гэтым месцы фашысты знішчылі тысячы яўрэяў.**

**НА ЗДЫМКУ: на мітынгу.**

*МЫ І СУСЕДЗІ*

## ХТО МАЕ БОЛЬШ

**Як сведчаць даныя Дэпартамента статыстыкі Літвы, у верасні самая нізкая сярод краін Балтыі інфляцыя была ў Літве — 0,3 працэнта. У Эстоніі яна дасягала 0,6, у Латвіі — 0,7, а ў Беларусі — 1,8 працэнта.**

**Розныя паказчыкі і па мінімальнай заработнай плаце. У верасні яна ўзрасла толькі ў Літве і была самай вялікай сярод усіх балтыйскіх дзяржаў — 75 долараў ЗША. У Латвіі мінімальная зарплата — 68,84, у Эстоніі — 55,48 долара ЗША. У Беларусі за гэты месяц яна знізілася і складала 6,79 долара.**

**Беларускія пенсіянеры на фоне сваіх балтыйскіх суседзяў таксама атрымалі менш. Сярэдняя пенсія па старасці ў другім квартале, як і ў жніўні, у нашай рэспубліцы складала 37,12 долара ЗША. А самай вялікай яна была ў Эстоніі 76,2 долара ЗША. І, адпаведна, у Латвіі — 68,88, а ў Літве — 46,34 долара ЗША.**

*ПРЫВАТНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА*

**У гарадскім пасёлку Стрэшын Жлобінскага раёна прыватнае прадпрыемства "Акцэпт" наладзіла выпечку хлеба, які нараней завозіўся са Жлобіна, амаль за 20 кіламетраў. Справа акупляе сябе. Не выпадкова хлеб і батоны, толькі што з печы (коштам, дарэчы, ніжэй за дзяржаўны) разбіраюцца поўнасцю.**



**НА ЗДЫМКУ: пекар Святлана ДРАЧОВА прапаноўвае свежую прадукцыю "Акцэпта".**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

## АПТЭКІ ДЛЯ НАРОДА

**Беларуска-германскае сумеснае прадпрыемства "Белфарм", што вось ужо 5 гадоў пастаўляе ў Беларусь лякарствы ад 56 вядучых сусветных вытворцаў, і расійская асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва з ФРГ "Орадс" (пастаўка нафтапрадуктаў) адкрылі ў рэспубліцы сетку сацыяльных аптэк. Цэны ў іх на абсалютна ўсе віды лякарстваў зніжаны на 30—35 працэнтаў (у залежнасці ад кошту).**

**— Гэта не камерцыйны праект, — падкрэсліў на прэс-канферэнцыі, дадзенай з гэтай нагоды журналістам, Андрэй Шчэрбаў, генеральны дырэктар СП "Белфарм". — Сёння як ніколі важна нам усім падумаць, што менавіта кожны можа зрабіць для аслаблення сацыяльнай напружанасці.**

**Аптэкі будуць абслугоўваць усіх, у каго нізкі ўзровень даходаў, — пенсіянераў, студэнтаў, беспрацоўных, маладыя сем'і і іншыя сацыяльна не абароненыя катэгорыі грамадзян.**

**У перспектыве плануецца адкрыць у Беларусі яшчэ 21 аптэку.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

УВЕДЗЕНЫ ў абарачэнне новы разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі вартасцю 100 тысяч рублёў. На адным яго баку намаляваны будынак Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску, на адваротным — фрагмент балета Яўгена Глебава "Выбранніца" паводле паэмы Янкі Купалы.

АДРАЗУ дзве новыя медыцынскія ўстановы адчынілі свае дзверы для мінчан у сярэдзіне кастрычніка. Гэта дзіцячая стаматалагічная паліклініка, абсталяваная 15 самымі сучаснымі стаматалагічнымі ўстаноўкамі, і Цэнтр пластычнай хірургіі і медыцынскай касметалогіі.

ГРОДЗЕНСКІ катэхізісны інстытут пры мясцовай рымска-каталіцкай епархіі аб'явіў чарговы прыём студэнтаў. Тут рыхтуюць выкладчыкаў Закона Божага для нядзельных школ і іншых навучальных устаноў.

КАЛЬВАРЫЙСКІЯ могілкі ў Мінску сталі пастаянным месцам, дзе адбываецца шабаш "сатаністаў". Амаль штодня вандалы разбіваюць тут надмагільныя камяні, ламаюць крыжы, дратуюць магілы і апаганьваюць Кальварыйскі касцёл. Нядаўна тут была згвалтавана жанчына.

У БАРАНАВІЧАХ створана аддзяленне Беларускага фонду культуры. Праграма яго дзейнасці прадугледжвае не толькі дапучэнне грамадскасці горада да набыткаў нацыянальнай і сусветнай культуры, але і дапамогу бібліятэкам, збор сродкаў на будаўніцтва храма. Фонд мае заснаваць штогадовую прэмію лепшаму настаўніку беларускай мовы.

ПЕРШЫ і адзіны ў Беларусі клас ігры на гармоніку адкрыты ў музычнай школе горада Крычава. Дзе прыйдзецца вучыцца майстэрству пасля заканчэння школы, пакуль невядома, бо ў рэспубліцы няма яшчэ такіх класаў ні ў музычных вучылішчах, ні ў Акадэміі музыкі.

*АПТЫМІСТЫЧНЫЯ ПРАГНОЗЫ*

## БЕЛАРУСЬ АЎТАМАБІЛЬНАЯ

**Практычна кожная другая гарадская сям'я ў Беларусі, паводле прагнозаў спецыялістаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, будзе мець к 2000 году ўласны легкавы аўтамабіль. Гэта сцвярджэнне, улічваючы агульнае крызіснае становішча эканомікі і рэзкае зніжэнне жыццёвага ўзроўню большай часткі насельніцтва нашай рэспублікі, можна ўспрымаць з доляй скептыцызму, аднак лічбы і факты пацвярджаюць заключэнні міжнародных экспертаў. Так, за апошнія 5 гадоў колькасць прыватных легкавых аўтамабіляў узрасла ў 1,5 раза. У вялікіх гарадах на 1 000 жыхароў прыпадае 90—110 асабістых транспартных сродкаў, і пры захаванні цяперашніх тэндэнцый да пачатку наступнага стагоддзя ўзровень матарызацыі насельніцтва дасягне 140—160 аўтамабіляў на 1 000 гараджан.**

*АКЦЫЯ*

## ХАЦЯ Б АДЗІН БЕЛАРУСКАМОЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

**Сумесную акцыю па збору подпісаў грамадзян у абарону канстытуцыйнага права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове пачалі дзянні Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы.**

**Сярод найпершых патрабаванняў — стварыць беларускамоўныя падручнікі па ўсіх дысцыплінах ВНУ, а таксама адкрыць хаця б адзін універсітэт цалкам з беларускай мовай навучання.**

**Усе сабраныя подпісы будуць накіраваны ў Міністэрства адукацыі і навукі, Вярхоўны Савет, Адміністрацыю Прэзідэнта.**

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## «ЗАТРЫМАНЫЯ» ІКОНЫ ВЕРНУТЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб бясплатнай перадачы ікон Беларускай праваслаўнай царкве".**

**Гэтым дакументам Дзяржмытні даручана перадаць бясплатна Беларускай праваслаўнай царкве іконы "Святая мучаніца Соф'я, Святая мучаніца Вера, Святая мучаніца Любоў, Святая мучаніца Надзея" і "Неапалімая Купіна", затрыманыя Гродзенскай рэгіянальнай таможняй і канфіскаваныя па рашэнню суда.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

На першым часе пераходу праваслаўных беларусаў да уніяцтва, як вядома, не заўважалася амаль ніякіх асаблівых перамен у дзейнасці іх храмаў. Па-ранейшаму ў набажэнстве чулася царкоўнаславянская мова, хаця пазіцыі яе год ад году слабелі. Пра памяркоўныя дачыненні высокіх уніяцкіх духоўных асобаў да царкоўнаславянскай мовы можна меркаваць і па тым, што на ёй кіеўскі мітрапаліт Язэп Руцкі чытаў абедню ля труны караля Польшчы Жыгімонта III.

Але ж жыццё не стаяла на месцы. Уніяцкае духавенства бачыла, як цяжка разумеюць вернікі царкоўнаславянскую мову. Да таго ж не хацелася праз яе мову мець штосьці агульнае з Рускай праваслаўнай царквой, якая вельмі раўніва назірала за метамарфозай у рэлігійным жыцці беларусаў. Ёсць меркаванні вучоных, што ўжо нават у часы Францішка Скарыны людзьмі Русі літоўскай слаба разумелася царкоўнаславянская мова, што якраз і з'явілася прычынай перакладу нашым першадрукаром і яго паслядоўнікамі рэлігійных тэкстаў на жывую мову простага народа.

Не бачыў іншага шляху далучэння беларусаў да царкоўнаславянскай мовы, як выкарыстанне ў гэтых мэтах сродкаў народнай лексікі Лаўрэнцій Зізаній. Якраз у год падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 годзе ён паспеў выдаць у Вільні "Лексіс", у якім у перакладзе на старабеларускую мову дадзена больш за тысячу царкоўнаславянскіх слоў. Патрэба ў растлумачэнні незразумелых слоў з царкоўнаславянскай мовы яшчэ больш узрасла ў пасляскарынаўскі час, паколькі адбылося значнае звужэнне сферы ўжывання гэтай мовы, за выключэннем рэлігійнага жыцця.

Зусім іншыя, чым у беларускай, былі суадносіны паміж рускай і царкоўнаславянскай мовамі. Ёсць вучоныя, якія схільныя цалкам не заўважаць ці бачыць толькі зусім нязначныя адрозненні паміж той і другой. Вось, да прыкладу, погляд Івана Ласкова: "Расейская — гэта фактычна царкоўнаславянская, лагічны вынік яе шматгадовага развіцця, у той час як беларуская ды ўкраінская — вынік змагання мясцовых, заходнеславянскіх гаворак (да іх ён адносіць беларускую і ўкраінскую. — **Л. Л.**) супраць царкоўнаславянскай мовы".

І ўсё ж на нейкі час на Беларусі абставіны склаліся так, што царкоўнаславянскай мове замест далейшага заняпаду наканавана было ў пэўных сферах яе ўжывання ўступіць у паласу часовага росквіту. Найперш за ўсё гэта выклікана было шырокім выкарыстаннем яе ў рэлігійна-палемічнай літаратуры, калі праваслаўная царква стала перад неабходнасцю ахаваць душы сваіх вернікаў ад уплыву ідэй каталіцызму. "У барацьбе з каталіцкім Захадам, — справядліва піша сучасны вучоны-філолаг Леў Шакун, — яна (царкоўнаславянская мова. — **Л. Л.**) стала сродкам змагання за спрадвечную веру, за "чысціню праваслаўных рыз". Важна было ўзвысіць прэстыж гэтай мовы, надаць ёй гнуткасць і выразнасць, зрабіць яе баяздольнай, здатнай для адстойвання ў палеміцы з каталікамі і уніятамі праваслаўных дагматаў". Дзякуючы клопатам праваслаўных брацтваў, з'явіліся царкоўнаславянскія дапаможнікі, якія павінны былі дапамагчы людзям лепш разумець мову праваслаўнай царквы. Што для многіх гэта было нялёгкай справай, сведчыць частае ўжыванне беларускай ці ўкраінскай моваў пры тлумачэнні правілаў царкоўнаславянскай мовы. Магчыма, пры такім старанні не адбылося б адлучэння беларускага народа ад апошняй, але распаўсюджванне сярод яго уніяцтва і каталіцтва несла ў наш край зусім іншыя духоўныя каштоўнасці і мову. Да таго ж усе гэтыя дапаможнікі, як слушна заўважае Леў Шакун, "арыентавалі пісьмовую мову на ўстарэлыя кніжныя ўзоры", што, зразумела, не магло забяспечыць ёй будучыню.

Каб адрозніваца як ад праваслаўнай, так і рымска-каталіцкай цэркваў, уніяцтва для замацавання такой дыферэнцыяцыі рана ці позна павінна было адмовіцца ад царкоўнаславянскай ці лацінскай моваў у набажэнстве і выкарыстоўваць дзеля гэтага нейкую новую мову. Зразумела, ёю павінна была стаць мясцовая, старабеларуская мова, як мова дзяржаўная на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і добра зразумелая абсалютнай большасці яго насельніцтва. Да таго ж яшчэ яна з'яўлялася і добра ўнармаванай літаратурнай мовай, з багатым лексічным матэрыялам, зусім дастатковым для перакладу кніг Свяшчэннага Пісання, літургічных тэкстаў. Гэтае несумненнае багацце старабеларускай мовы імкнулася максімальна паставіць сабе на службу уніяцкае духавенства.

Да выкарыстання царкоўнаславянскай мовы негатыўна ставіліся і тыя духоўныя органы каталіцкага Захаду, якія садзейнічалі пранікненню ідэй уніяцтва на Беларусь. Не дарэмна ж у тых уніяцкіх храмах, дзе не ўдавалася нейкі час укараніць беларускую мову, Ватыкан і польская каталіцкая царква імкнуліся насадзіць латынь альбо польскую мову, якую не так і цяжка пры жаданні было засвоіць, зразумець карэннаму насельніцтву Беларусі. Справядлівую ацэнку месца царкоўнаславянскай мовы ў тагачасным рэлігійным жыцці Беларусі знаходзім у гісторыка праваслаўнай асветы К. Харламповіча: "Зняважлівае стаўленне да славянскай мовы, якое выявілі правадыры уніі ад самага пачатку, садзейнічала таму, што праз якія-небудзь сто гадоў яна стала зусім незразумелай нават духавенству уніяцтва". Народ Беларусі "быў настолькі адчужаны ад славянскай мовы, што даводзілася ўводзіць рускую (г. зн. старабеларускую. — **Л. Л.**) нават у набажэнства, што ўзаконіла віленская кангрэгацыя ў 1636 годзе".

Аднак асноўнай прычынай непрыняцця любых моваў, акрамя беларускай, ва уніяцкіх храмах была пазіцыя саміх духоўных асобаў, якія добра разумелі небяспеку асіміляцыі свайго народа як з боку ўсходняга, так і заходняга суседзяў. Нежаданне бачыць сваю паству асіміляванай абавязвала ўсяляк бараніць яе мову, ужываць апошнюю не толькі ў царкоўна-рэлігійным, але і свецкім жыцці. У літаратуры дастаткова фактаў, якія сведчаць, што ад самага пачатку свайго існавання уніяцкая царква і ва ўрадавай перапісцы карысталася беларускай мовай, г. зн. дзяржаўнай ва ўмовах Вялікага Княства Літоўскага. Каб не варожая палітыка свецкай і духоўнай уладаў Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы да уніяцтва, яно магло б, трывала абапіраючыся на мясцовыя духоўныя традыцыі, даволі хутка пераўтварыцца на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ў сапраўдную дзяржаўную, нацыянальную рэлігію. На жаль, знешнепалітычны фактар увесь час не спрыяў нармальнаму нацыянальна-рэлігійнаму жыццю на Беларусі. Таму, калі ва уніяцтва былі дасягненні, дык іх цалкам трэба звесці да ўнутраных прычын: вялікага жадання духоўнікаў, радавых вернікаў-беларусаў мець царкву, якая абслугоўвала б іх на зразумелай для ўсіх беларускай мове, шанавала б іх мясцовыя традыцыі. Праўда, часам даводзілася адступаць ад іх. Чаму? Адказ на гэтае пытанне знаходзім у нашага вядомага мовазнаўца Я. Карскага: "...беларуская інтэлігенцыя пад гэты час (канец XVII стагоддзя. — **Л. Л.**) канчаткова паланізавалася: уніяцкае духавенства ішло па тым жа шляху, ужываючы нярэдка нават у палемічных творах, напісаных у абарону праваслаўя і беларускай народнасці, польскую мову, як больш зразумелую і распаўсюджаную сярод чытачоў".

Было б несправядлівым строга судзіць уніяцкае духавенства за такое стаўленне да чужой беларускаму народу мовы. Тут трэба ўлічваць, што замацаванне беларускіх этнакультурных пачаткаў у рэлігійным жыцці уніяцкай царквы абцяжарвалася тымі зусім неспрыяльнымі ўмовамі, у якія трапіў наш край у выніку падпісання ў 1569 годзе Люблінскай уніі. Выклікае да сябе павагу уніяцкае духавенства тым, што і ў тых нялёгкіх варунках яно не апускала рук, а як магло бараніла сваіх вернікаў ад чужародных уплываў. Яскравым прыкладам гэтаму можа быць праведзеная ў 1636 годзе ў Вільні кангрэгацыя "уніяцкага Касьцёла, на якой, з прычыны частай замены ў сьвятынях мовы беларускай мовай польскай, было пастаноўлена, каб казаньні ва уніяцкіх сьвятынях у нашым Краі духоўнікі гаварылі па беларуску". На абарону роднага слова беларусаў быў скіраваны і выдадзены ў 1682 годзе загад віленскага біскупа Ст. Паца "ў нядзелі і сьвяты выясьняць Эвангелію або выкладаць катэхізм "па просту", што, як справядліва заўважае Адам Станкевіч, азначала вучыць вернікаў па-беларуску ці па-літоўску.

Высока цаніў пашану уніяцкай царквы да роднай культуры і мовы нашага народа пісьменнік Максім Гарэцкі. Як і шэраг іншых даследчыкаў, ён лічыў, што і пасля забароны польскімі ўладамі ўжываць беларускую пісьмовую мову ў службовым справаводстве яна цалкам не страціла сваіх сацыяльных функцый. "У іншым ужытку наша старая кніжная мова, — пісаў М. Гарэцкі, — існавала і далей, аж да канца 18-га веку. Найперш у уніяцтве. Амаль на ўсё наша ніжэйшае вясковае духавенства к канцу 18-га веку было уніяцкае, не было такога сяла, дзе не было б уніяцкай царквы (як аб гэтым пісаў з беларускага падарожжа маскоўскі вучоны В. Севяргін у 1803—1804 гг.). Уніяцкія ж духоўнікі, хоць і дужа падпалі пад уплыў польскай мовы, цвёрда дзяржаліся мовы свае паствы, казанні казалі і навуку ў школах выкладалі па-беларуску. Ад царкоўнаславяншчыны уніяты аддаліліся так, што ўжо к часу сабору ў Замосці (1720 г.) з нававысвячаных духоўнікаў хіба толькі соты разумеў па-славянску, і уніяцкім мітрапалітам Львом Кішкаю (1668—1728) быў выдадзены патрэбны слоўнік (1722 г.). Вось жа уніяцкія рэлігійныя пісьменнікі, апрача лацінскай і польскай мовы, карысталіся ў сваіх творах і сваёю роднаю моваю".

Уніяцкае духавенства, бадай, больш за ўсіх было незадаволена афіцыйнай забаронай у 1696 годзе прапольскімі ўладамі Рэчы Паспалітай ужываць беларускую мову ў службовым справаводстве, бо ведала, што гэта не зможа абмінуць і царкоўна-рэлігійнае жыццё. Не ўхвалялі такой антычалавечай пастановы ў дачыненні да беларускай мовы і ў Ватыкане, таму адтуль паступалі ўказанні, што уніяцкія святары пры вызначэнні мовы казанняў павінны кіравацца інтарэсамі і пажаданнямі сваіх вернікаў. Відаць, маючы такую падтрымку з боку апостальскай сталіцы, віленскі біскуп у лютым 1742 года на пасяджэнні дыяцэзіяльскага Сінода "пастанавіў гаварыць да народу навукі паводле старога звычаю ў народнай мове. З другой паловы XVIII в. дайшлі да нас таксама беларускія рэлігійныя паасобныя песьні, як "О, мой Божа, веру Табе", а такжа зборнік такіх песьняў пад загалоўкам "Kantyczka" (Полацк, 1774). Адам Станкевіч з цвёрдым перакананнем сцвярджае, што "уніяцкі Касьцёл у канцы XVIII ст. яшчэ не пакідаў цалкам роднай мовы народу ў жыцьці рэлігійным", што "...Касьцёл Уніяцкі беларускай мовай карыстаўся, як мовай роднай".

Надзейным памочнікам царквы ў гэтай справе сталі уніяцкія школы, роля якіх аб'ектыўна раскрыта даследчыкам К. Харламповічам: "Становішча рускай мовы (г. зн. старабеларускай. — **Л. Л.**) павінна было быць ва уніяцкіх вучылішчах некалькі лепшым у параўнанні са славянскай ужо з прычыны таго, што без ведання яе нельга было наладжваць сувязь з тым простым народам, які і складаў галоўным чынам уніяцкую царкву... Зрэшты, факт школьнага выкарыстання рускай мовы як мовы выкладання даказваецца ўжо тым, што уніяцкія вучылішчы часта называюцца рускімі; на ёй мелі выкладацца свяшчэнныя навукі нават у праектаванай на кобрынскім саборы мінскай семінарыі; ёй жа (г. зн. мове. — **Л. Л.**) дадзена ў ёй (г. зн. семінарыі. — **Л. Л.**) аднолькавае месца з лацінскай і па пастанове мінскай кангрэгацыі 1652 г."

Добра паклапаціліся кіраўнікі уніяцкай царквы і аб выданні патрэбнай для яе літаратуры, прычым і тут не рэдкасцю з'яўлялася ўжыванне старабеларускай мовы. Так, у 1628 годзе манахі віленскага Траецкага манастыра выдалі уніяцкі катэхізм "Наука, яко верити маеть каждый" (пасля скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі ён трапіць у бібліятэку Маскоўскага друкарскага двара). З каштоўных беларускамоўных уніяцкіх выданняў можна назваць зборнік казанняў біскупа ўладзімірскага і берасцейскага, мітрапаліта кіеўскага Іпація Пацея. З'явіўся гэты зборнік у свет у 1674 годзе, г. зн. праз 61 год пасля смерці яго аўтара. Шырока пранікла старабеларуская мова і на старонкі нерэлігійнай, пераважна палемічнай, літаратуры. Да яе можна аднесці творы мітрапаліта Л. Кішкі "Аб сакрамэнтах" (Полацк, 1697), "Сабранне прыпадкаў, духоўным асобам патрэбнае" (Супрасль, 1722), "Парафіяльныя навукі", "Катэхізмы капланскія" і інш. Вядомы беларускі этнограф Павел Шпілеўскі ў сваёй кнізе "Путешествие по Полесью и Белорусскому краю" згадвае такі факт, што сярод выдадзеных на старабеларускай мове ў XVII стагоддзі кніг, якія захоўваліся ў бібліятэцы Нясвіжскага замка, меўся твор пад назвай "Спорка (спор) меж униатами и католиками папскими..."

На працягу XVII—XVIII стагоддзяў асабліва шмат зрабіў для распаўсюджання уніяцкай рэлігіі і нацыянальнай асветы закладзены ў 1498 годзе Аляксандрам Хадкевічам Супрасльскі манастыр. У заснаванай пры ім з дапамогай Карла Радзівіла і мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскай друкарні з 1698 года пачалі выходзіць кнігі для уніяцкага набажэнства. Да канца XVII стагоддзя былі надрукаваны "Страсти Христовы", "Служэбнік", "Мінея Агульная", "Последование постригу в малый ионический образ". У пачатку XVIII стагоддзя ў ёй, акрамя выдання кніг на славянскай мове, сталі ў гэтых мэтах карыстацца лацінскай, польскай і старабеларускай. Супрасльскі уніяцкі манастыр захоўваў прагрэсіўныя традыцыі XVI стагоддзя тым, што ён, як справядліва пісаў вядомы беларускі гісторык У. Пічэта, друкаваў "кнігі для царкоўнага набажэнства ў мове блізкай і зразумелай для народных мас". І такой мовай, бясспрэчна, была старабеларуская.

У той час, калі пасля афіцыйнай забароны ў 1696 годзе ўжываць беларускую мову ў справаводстве, а пазней — у друкаванні кніг, яе сацыяльныя функцыі звузіліся да крайнасці. Практычна толькі адно уніяцкае духавенства не адступілася ад роднага слова карэннага насельніцтва нашай Бацькаўшчыны. А паколькі, па-першае, яно тут колькасна пераважала ўсіх астатніх жыхароў і, па-другое, уніяцкую рэлігію вызнавала абсалютная большасць беларусаў, дык няцяжка зразумець, якую велізарную ролю адыгрывала гэтая канфесія ў захаванні этнічнай самасвядомасці ў час, калі пад такі моцны ўплыў польскай культуры і мовы падпалі беларуская культура і мова. Толькі за перыяд 1771—1792 гадоў уніяцкае духавенства выдала на беларускай мове лацінкай шэраг папулярных у народзе рэлігійных зборнікаў і песнапенняў, у тым ліку "Кантычка", "Радуйся, Божы народзе", "Нова радасць стала", "Цару Хрысту малю", "Кажуць людзі". На беларускай мове працягвалі прамаўляцца пропаведзі ва уніяцкіх храмах аж да самага далучэння нашага краю да Расійскай імперыі. Улічваючы, што уніяцкая царква была распаўсюджана пераважна сярод простага беларускага люду і так прыхільна ставілася, абараняла яго культуру, выкарыстоўвала яго родную мову, многія, у іх ліку і паэт Максім Багдановіч, зусім слушна глядзелі на гэтую канфесію, як на сапраўдную нацыянальную з'яву. Вельмі дасведчаны ў пытаннях гісторыі царкоўна-рэлігійнага жыцця на Беларусі ксёндз Адам Станкевіч пісаў, што унія гэта "найбольш дапасаваная да душы народу форма хрысціянскай рэлігіі". Паводле вядомага нашага мовазнаўцы Янкі Станкевіча, "яна сталася ў Беларусі народнаю вераю з дадатковым беларускім набажэнствам у царкве, з беларускімі песьнямі, пропаведзямі і г. д.".

Падобную пазітыўную ролю некалі адыграла уніяцкая царква і ў лёсе ўкраінцаў Галіцыі, якая раней належала Польшчы, а затым пасля яе падзелу ўвайшла ў склад Аўстрыі. Прыхільнымі адносінамі да беларускай і ўкраінскай культур і моваў уніяцкая царква заслужыла вялікую павагу ў гэтых народаў, помнілася апошнімі і пасля яе прымусовага скасавання.

Уніяцкая царква на Беларусі заваявала сабе права называцца нацыянальнай не толькі дзякуючы выкарыстанню ў час набажэнства роднай мовы яе карэннага насельніцтва, але і ўсебаковаму ўліку, вялікай павагі да яго духоўных традыцый у цэлым. Народ любіў, цягнуўся да гэтай самай таннай царквы яшчэ і таму, што яна не абцяжарвала яго вялікімі падаткамі. У гэтым яна асабліва адрознівалася ад каталіцкай царквы, якая ахвотна выкарыстоўвала любую нагоду, каб толькі сваімі багаццямі і раскошай уразіць чалавека. Вядомы на Беларусі гісторык каталіцызму Я. Мараш прыводзіць такі выпадак, што ў час пахавання ў Мінску маршалка Ігната Завішы каля катафалка гарэлі чатыры тысячы свечак і дзесяць тысяч аліўкавых лампад.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 39—44.**

*ПАКУТНЫ ШЛЯХ НА ЗАХАД*

# ВЫВАЗ МІРНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ГЕРМАНІЮ

Валянціна Дзёмушкіна, вярнуўшыся з Нюрнберга, расказвала: "Я працавала ў немкі. Муж яе обер-лейтэнант Карл Шток быў забіты на Усходнім фронце пад Сталінградам. 1 студзеня 1943 года да фрау Шток на навагодні абед павінны былі прыйсці госці. Захопленая работай і сваімі невясёлымі думкамі, я не заўважыла, як закіпела і пачало ліцца на электрычную пліту малако, пастаўленае кухаркай. Па кухні распаўсюдзіўся пах чаду. Раз'юшаная пані ўляцела ў кухню, вырвала з маіх рук каструлю з рэшткамі малака і плюхнула мне ў твар. Я страціла прытомнасць, апамяталася ў бальніцы і адчула невыносны боль і змрок. Я аслепла. Тры тыдні праляжала ў бальніцы і потым доўга прабіралася назад на радзіму". А было тады Валі ўсяго толькі 16 гадоў.

Нямецкія рабаўласнікі часта адкрыта хваліліся сваімі зверствамі ў адносінах да савецкіх людзей. Падрадчык Лорэнс Шпеер пісаў свайму зяцю салдату Іозефу Шпееру: "У нас цяпер працуе ўкраінская дзеўка 19 гадоў. Будзь спакойны — яна будзе працаваць. У нядзелю ў вёску прыбудзе яшчэ 20 рускіх. Я вазьму сабе некалькі штук..."

Яфрэйтар Гаўсман атрымаў пісьмо ад маці з Швейхаўзена: "У нас на малочнай ферме таксама ёсць шэсць рускіх. Іх на ноч там закрываюць. Сярод іх юнакі 14—15 гадоў. Не трывожцеся, яны змогуць працаваць".

Лейтэнанту 8-й роты 187-га палка пяхотнай дывізіі Гергарду Шплету пісала фрау Сузі Крамер з Цепліц-Шэнау (Судзецкая вобласць) 12 ліпеня 1942 года: "Нам павінны прыслаць дзесяць рускіх у піваварню. Ужо я прымушу паварочвацца гэту банду. Ахвотней за ўсё я б перабіла ўсіх рускіх".

Нямала савецкіх грамадзян, даведзеных да адчаю нечалавечым абыходжаннем рабаўласнікаў, пакончыла жыццё самагубствам. Вось пісьмо, знойдзенае ў забітага пад Ленінградам обер-яфрэйтэра Рудольфа Ламермаера. Гэта пісьмо напісана яго маці з мястэчка Люгдзе: "Учора днём да нас прыбегла Ганна Ліза Ростэрт. Яна была моцна раззлаваная. У іх на свінарніку павесілася руская дзеўка. Нашы работніцы-полькі гаварылі, што фрау Ростэрт усё біла, лаяла рускую. Яна прыбыла сюды ў красавіку і ўвесь час хадзіла ў слязах. Пакончыла з сабой, напэўна, у хвіліну адчаю. Мы супакоілі фрау Ростэрт, можна ж за невысокую цану прыдбаць новую рускую работніцу".

Неўзабаве пасля вызвалення горада Ліёзна, у 1944 годзе, пры разборцы цаглянай разбуранай печы ў адным з дамоў быў знойдзены маленькі жоўты канверт, прашыты ніткамі. У ім аказалася пісьмо беларускай дзяўчынкі Каці Сусанінай, аддадзенай у рабства гітлераўскаму памешчыку. Даведзеная да адчаю, Каця ў дзень свайго пятнаццацігоддзя рашыла пакончыць жыццё самагубствам. Перад смерцю яна напісала апошняе пісьмо бацьку. На канверце стаяў адрас: "Дзеючая армія. Палявая пошта № ... Сусаніну Пятру". На другім баку канверта алоўкам напісаны словы: "Дарагія дзядзечка ці цёцечка, хто знойдзе гэтае схаванае ад немцаў пісьмо, прашу вас, апусціце адразу ж у паштовую скрынку.

Мой труп будзе вісець на вяроўцы".

12 сакавіка 1943 года Каця пісала: "Дарагі, добры татка! Пішу я табе пісьмо з нямецкай няволі. Калі ты, татка, будзеш чытаць гэтае пісьмо, мяне ў жывых ужо не будзе. І мая просьба да цябе, тата: пакарай нямецкіх крывапіўцаў. Гэта завяшчанне тваёй паміраючай дачкі.

Некалькі слоў аб маці. Калі вернешся, маму не шукай. Яе расстралялі немцы. Калі дапытваліся пра цябе, афіцэр біў яе нагайкай па твары. Мама не сцярпела і горда сказала, вось яе апошнія словы: "Вы не запужаеце мяне біццём. Я ўпэўнена, што муж вернецца назад і выкіне вас, подлых захопнікаў, адсюль вон". І афіцэр выстраліў маме ў рот...

Татка, мне сёння споўнілася 15 год, і калі б зараз ты сустрэў мяне, то не пазнаў бы сваю дачку. Я стала вельмі худзенькая, мае вочы ўваліліся, касічкі мае абстрыглі нагала, рукі высахлі, падобныя на граблі. Калі я кашляю, з рота ідзе кроў — у мяне адбілі лёгкія. А помніш, тата, два гады таму назад, калі мне споўнілася 13 год? Якія добрыя былі мае імяніны! Ты мне, тата, тады сказаў: "Расці, дачушка, на радасць вялікай!" Іграў патэфон, сяброўкі віншавалі мяне з днём нараджэння, і мы пелі нашу любімую піянерскую песню.

А цяпер, тата, калі гляну на сябе ў люстэрка — адзенне парванае, нумар на шыі, як у злачынцы, сама худая, як шкілет, — салёныя слёзы цякуць з вачэй. Што толку, што мне споўнілася 15 год. Я нікому не патрэбная. Тут многія людзі нікому не патрэбны. Ходзяць галодныя, затрАўленыя аўчаркамі. Кожны дзень іх вывозяць і забіваюць.

Тата, і я рабыня нямецкага барона, раблю ў немца Шарлэна прачкай, мыю падлогу. Працую вельмі шмат, а ем два разы ў дзень у карыце з "Розай" і "Кларай" — так завуць гаспадарскіх свіней. Так загадаў барон. "Рус была і будзе свіння", — сказаў ён. Я вельмі баюся "Клары". Гэта вялікая і прагная свіння. Яна мне адзін раз ледзь не адкусіла палец, калі я з карыта даставала бульбу.

Жыву я ў дрывяным хляве: у пакой уваходзіць нельга. Адзін раз пакаёўка полька Юзэфа дала мне кавалак хлеба, а гаспадыня ўбачыла і доўга біла Юзэфу нагайкай па галаве і спіне.

Два разы я ўцякала ад гаспадароў, але мяне знаходзіў іх дворнік. Тады сам барон зрываў з мяне адзенне і біў нагамі. Я траціла прытомнасць. Потым на мяне вылілі вядро вады і кінулі ў падвал.

Сёння даведалася, што паны едуць у Германію з вялікай партыяй нявольнікаў і нявольніц з Віцебшчыны. Цяпер яны бяруць і мяне з сабой. Не, я не паеду ў гэтую тройчы праклятую Германію. Я рашыла лепш памерці на роднай старонцы, чым быць утаптанай у праклятую нямецкую зямлю. Толькі смерць выратуе мяне ад жорсткага быцця.

Не хачу больш мучыцца рабыняй у праклятых, жорсткіх немцаў, не даўшых мне жыць!..

Завяшчаю, тата, адпомсці за маму і мяне. Прабач, добры татка, іду паміраць!

Твая дачка

Каця Сусаніна.

Маё сэрца верыць: пісьмо дойдзе".

Недалёка ад Полацка Віцебскай вобласці немцы стварылі перасыльны лагер, дзе ўтрымлівалася звыш 400 дзяўчат і жанчын. Кожны тыдзень 20—30 паланянак накіроўвалі на катаржную працу ў Германію. У сярэдзіне ліпеня 1942 года ў лагеры 20 дзяўчат заявілі, што яны нікуды не паедуць са сваіх месцаў. Гітлераўцы з імі жорстка расправіліся. Яны доўга здзекаваліся з дзяўчат, а потым расстралялі.

Асабліва ўзмацніўся вываз мірных людзей у Германію, калі пачалося масавае выгнанне нямецкіх войск з тэрыторыі СССР. У 1943 годзе гітлераўцы прыступілі да татальнай мабілізацыі насельніцтва на работу ў Германію. На аснове загадаў № 8466143 ад 27 чэрвеня і № 10123143 ад 26 ліпеня 1943 года галоўнакамандуючага групай армій "Цэнтр" фон Клюге яны праводзяць мабілізацыю моладзі 1925 і 1926 гадоў нараджэння. На працягу 10 тыдняў, пачынаючы з 1 жніўня 1943 года, усе юнакі і дзяўчаты гэтых узростаў павінны быць вывезены ў Германію. Ад мабілізацыі не вызваляліся нават асобы, якія былі заняты на самых важных работах. Мабілізаваных зганялі ў "зборныя лагеры", якія былі створаны ў Гомелі, Жлобіне, Бабруйску, Оршы, Барысаве, Магілёве, Віцебску і іншых гарадах Беларусі. Тут іх грузілі ў таварныя вагоны і пад узмоцненым канвоем эшалон за эшалонам везлі ў праклятае нямецкае рабства. Нават акупацыйныя чыноўнікі даносілі Розенбергу, што на падначаленых яму тэрыторыях "прымяняліся такія метады вярбоўкі рабочай сілы, якія, магчыма, бяруць свой пачатак з самых чорных перыядаў гандлю рабамі".

У сваёй палітыцы масавага вывазу насельніцтва рэспублікі гітлераўцы апіраліся на дапамогу арганізацый, створаных беларускімі нацыяналістамі ў гады вайны — Беларускай народнай самапомачы, Саюза беларускай моладзі. Менавіта ім адрасаваліся распараджэнні, указанні, інструкцыі гітлераўскіх улад з заклікам "мабілізаваць цераз БНС дастатковую колькасць рабочых".

На асобым уліку ў фашысцкіх захопнікаў было насельніцтва, якое пражывала ў партызанскіх зонах. Яно аб'яўлялася "бандытамі" ці "саўдзельнікамі бандытаў", станавілася "па-за законам" і падлягала пагалоўнаму вывазу ў рабства. На гэты конт меліся прамыя дырэктывы і распараджэнні гітлераўскага ўрада і ваеннга камандавання. Так, у загадзе № 8272/43 ад 14 ліпеня 1943 года галоўнакамандуючы групай армій "Цэнтр" фон Клюге распарадзіўся "**забраць усё прыгоднае да працы насельніцтва з бандыцкіх абласцей,** якія часова ўтрымліваліся бандытамі, і адправіць у Германію з мэтай далейшага павелічэння колькасці рабочых рук у імперыі".

У захопленым партызанамі сакрэтным загадзе па 3-й нямецкай танкавай арміі гаварылася: "З усіх населеных пунктаў, якім пагражае небяспека з боку партызан, трэба высяляць усё мужчынскае насельніцтва".

Куды ж акупанты высялялі мужчын (у большасці гэта былі старыя і падлеткі)? У загадзе дакладна запісана: "...У Віцебскі лагер для ваеннапалонных". Такім чынам гітлераўцы ператваралі старых і падлеткаў у ваеннапалонных.

Для выканання гэтых загадаў рыхтаваліся буйныя воінскія часці і злучэнні, якія наладжвалі сапраўднае паляванне на мірных жыхароў. Многія дзесяткі тысяч савецкіх людзей з Беларусі былі вывезены фашысцкімі карнікамі на чужыну, у гітлераўскае логава. Толькі ў час карных экспедыцый "Котбус", "Герман" і "Фрыц" акупанты вывезлі, паводле іх жа даных, 38 721 чалавека, у тым ліку 20 844 мужчыны, 12 021 жанчыну і 5 886 дзяцей. У час аперацый пад кодавай назвай "Балотная ліхаманка" было адпраўлена ў Германію 147 чалавек, "Рысь" — 300 чалавек, "Зімні лес" — больш за 2 000 чалавек, "Франц" — 1 000, "Свята ўраджаю II" — каля 300, "Шаравая маланка" — 804, "Зімняе чараўніцтва" — 2 000, "Русалка" — звыш 1 000, "Цёплы вецер" — 1 225, "Манылы" — больш за 500, "Котбус" — больш за 6 000 чалавек. Усяго за гады вайны з Беларусі было вывезена не менш 380 тысяч чалавек.

Гітлераўцы нахабна парушалі элементарныя міжнародныя нормы і правілы, аб'яўляючы захопленых у партызанскіх зонах мірных грамадзян ваеннапалоннымі.

У красавіку 1944 года ў рукі беларускіх партызан трапіла інструкцыя штаба 3-й нямецкай танкавай арміі "Аб мабілізацыі сельскага насельніцтва і рэквізіцыі маёмасці", у якой давалася ўстаноўка ...прыгодных да працы мужчын ад 15 да 60 гадоў накіроўваць у якасці ваеннапалонных, таму што "яны прынцыпова западозраны ў бандытызме".

Вываз мірных савецкіх грамадзян прымаў асоба жорсткі і масавы характар у блізкім тыле нямецкіх войск пры іх адступленні.

Пакідаючы нашу тэрыторыю, захопнікі стараліся вывезці на захад літаральна ўсё насельніцтва не толькі дзеля таго, каб пакрыць патрэбнасць у рабочай сіле, але і імкнучыся пакінуць за сабой спустошаную зямлю.

Перад уцёкамі з Беларусі гітлераўскія прыгнятальнікі пайшлі на новае гнюснае злачынства. Як відаць з сакрэтнага мемарандума, падрыхтаванага 12 чэрвеня 1944 года для міністэрства па справах акупіраваных усходніх абласцей, камандаванне груп армій "Цэнтр" збіралася "захапіць 40—50 тысяч юнакоў ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў, якія знаходзяцца на захопленай тэрыторыі, і прывезці іх у імперыю". Раскрываючы патаемныя мэты гэтай страшэннай задумы, аўтары мемарандума пісалі: "Гэта мерапрыемства ставіць сваёй мэтай не толькі прадухіліць узмацненне варожай ваеннай магутнасці, але і скараціць яго біялагічныя патэнцыялы з пункту гледжання перспектывы на будучыню: за гэтыя ідэі выказаліся не толькі імперскі кіраўнік СС (маецца на ўвазе Гімлер. — **М. Б.**), але таксама і сам фюрэр".

Аднак гэтым вар'яцкім задумам германскіх фашыстаў не суджана было ажыццявіцца. Чырвоная Армія знішчыла на палях Беларусі гітлераўскія орды, вызваліла шматпакутны беларускі народ ад ненавіснага прыгнёту акупантаў, выратавала яго ад канчатковага закабалення і знішчэння.

Партызаны і падпольшчыкі заклікалі насельніцтва ўсімі сродкамі ўхіляцца ад вывазу ў Германію. Савецкія людзі ішлі ў партызанскія атрады. Урачы-патрыёты выдавалі фіктыўныя даведкі аб фальшывым захворванні, вызваляючы іх тым самым ад мабілізацыі. Вялікую ролю ў выратаванні людзей ад вывазу ў Германію адыгралі партызаны. Пад іх абаронай знаходзіліся дзесяткі і сотні тысяч савецкіх грамадзян у так званых лясных (сямейных) лагерах. Напрыклад, на тэрыторыі Мінскай вобласці партызанамі было схавана каля 70 тысяч жыхароў Мінска, Барысава, Слуцка, іншых гарадоў і вёсак. Усяго партызаны вобласці выратавалі каля 567 тысяч мірных жыхароў. На абароне сямейных лагераў у Беларусі было занята 70 тысяч партызан. Частка насельніцтва была праз лінію фронту накіравана ў савецкі тыл. Усяго з акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў савецкі тыл было перапраўлена каля 90 тысяч чалавек. Гэта дазволіла сарваць страшэнны фашысцкі план вывазу савецкіх грамадзян у Германію. З уступленнем савецкіх войск на тэрыторыю Германіі пачалося вызваленне і вяртанне савецкіх людзей на Радзіму.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

---

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 41—42, 44.**

# «ДАЕШ ВАРШАВУ!»

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 3-й стар.).**

Тухачэўскага, які сканцэнтраваў тры з чатырох армій на поўначы ад Варшавы і толькі адну на ўсходзе (супраць якой Пілсудскі выставіў "кулак" у 30 000 чалавек). На поўначы ў Тухачэўскага было менш за 60 000 штыкоў супраць 90 000 польскіх.

13 жніўня, атрымаўшы апошні загад Тухачэўскага: "На Варшаву Берлін!", дзве дывізіі паўночнай групы адкінулі польскія аванпасты і дасягнулі горада Радзімін у прадмесці Варшавы і пагражалі Празе і Яблоне. Але рухацца далей сіл не хапіла, і атака была адбіта. 4-я армія на поўначы і кавалерыйскі корпус Гая былі адкінуты ў "Данцыгскі калідор" і не аказвалі больш уплыву на ход вайны. Трапіўшы на тэрыторыю Прусіі, яны былі раззброены і інтэрніраваны.

Нягледзячы на тое, што ў рукі Тухачэўскага трапіў загад Пілсудскага аб контрнаступленні, дзе ўказваўся і напрамак удару, ён недаацаніў сілу, што процістаяла яму. І гэта было галоўнай памылкай Тухачэўскага.

16 жніўня стала днём пералому ў ходзе кампаніі, і адступленне чырвоных ператваралася амаль у паўсюдныя ўцёкі. Да 17 жніўня 16-я армія была разгромлена, былі ўзяты 10 000 палонных і 40 гармат. 19 жніўня быў узяты назад Брэст-Літоўск, 23-га — Беласток. Будзённы, які нарэшце рушыў на поўнач, 27 жніўня быў спынены ў Замосці.

Дзеянні ў верасні і кастрычніку ўжо не былі такімі драматычнымі і праходзілі вяла, а мірныя перагаворы, перанесеныя ў Рыгу, ішлі зноў у перавернутым становішчы, дзе ўмовы дыктаваліся польскім бокам. Хаця Чырвоная Армія і налічвала ў той час 5 000 000 чалавек, большая частка яе была занята вайной з уласным народам, а частка — вайной з Врангелем. Карысна ўспомніць, што ў дваццатыя гады, нягледзячы на пастаянна раздуваемую кампанію аб небяспецы капіталістычнага акружэння, армія была скарочана ў 10 разоў, што не выклікала неадкладнага нападу праціўнікаў камунізму.

Акрамя таго, палякі не захацелі стаць чырвонымі, і савецкі ўрад страціў інтарэс да працягвання "пераафарбоўкі" Еўропы.

Мяжа была ўстаноўлена на захад ад "лініі Керзана", у выніку чаго заходнія Беларусь і Украіна адышлі да Польшчы (хаця ў параўнанні з мяжой пачатку 1920 года Расіі дабавілася 60 000 квадратных кіламетраў тэрыторыі з 4 мільёнамі насельніцтва).

Аднак дасягнутыя ўмовы міру маглі быць і больш выгаднымі для Польшчы, калі б яна пайшла на перагаворы вясной 1920 года замест наступлення на Кіеў. Пасля перамір'я банды Пятлюры кінуліся грабіць паўночна-заходнюю частку Украіны, а Булак-Балаховіч — Беларусь, пакуль не былі загнаны Чырвонай Арміяй у Польшчу, дзе яны былі раззброены. Так завяршылася савецка-польская вайна, якая паднесла ўрок як бальшавікам, так і палякам.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт.**

*ГУТАРКА З ВАНДРОЎКІ Ў КРАІНУ ГЕЛЬВЕЦЫЮ*

# РАЛЛЯ ПАД СОНЕЧНЫМІ ПРОМНЯМІ

Далей нас чакала яшчэ большая неспадзяванка. Аказалася, што пан Камацкі, уладальнік самай вялікай калекцыі графікі Шагала ў Еўропе, ужо даўно меў намер звязацца з музеем Шагала ў Віцебску і ахвяраваць яму адну з прац мастака! Даведацца аб такім намеры вядомага галерэйшчыка, для якога творчасць Шагала ўжо даўно стала не толькі бізнесам, але і шчырым ды глыбокім захапленнем, было вельмі ўсцешна.

Агледзеўшы яшчэ некалькі рарытэтаў са збору пана Камацкі і атрымаўшы запрашэнне наведаць галерэю яшчэ раз праз некалькі дзён, калі будзе скончаны рамонт, мы вярталіся дадому з цвёрдым перакананнем, што кола сяброў віцебскага музея Шагала ў Еўропе пашырылася за кошт яшчэ аднаго вельмі дзейнага і дасведчанага грамадзяніна Гельвецыі.

* * *

Без ведання мовы цяжка падарожнічаць па краіне. Не толькі таму, што маеш абмежаваныя камунікацыі (якраз тут я зазнала найменей клопату, заўсёды маючы добрага анёла-ахоўніка ў асобе спадарыні Банькоўскі), але і таму, што напачатку цалкам адсутнічае разуменне тамтэйшых жыхароў, якія жывуць у іншай рытмічнай стыхіі, што выяўляецца найперш праз мову. Швейцарскую нямецкую мову, бадай што, хутчэй засвоіць музыкант. Вышэйшыя і ніжэйшыя перапады тонаў у амаль суцэльнай моўнай плыні чымсьці нагадваюць шчабятанне птушак (асабліва ў гаворцы жанчын). Для нашага вуха гэта нязвыкла і вельмі прыгожа.

* * *

Горад Раперсвіль быў заснаваны на беразе Цюрыхскага возера каля 1200 года. Пры ясным надвор'і і не зацягнутым хмарамі даляглядзе фонам для яго панарамы адразу выступаюць маляўнічыя абрысы Швейцарскіх Альп. Горад мае ўдалае аўтамабільнае і чыгуначнае злучэнне з Цюрыхам, Сэн-Галенам і Хурам (апроч таго, пры жаданні з Цюрыха можна трапіць сюды і водным шляхам — па возеры), і яго штогод ахвотна наведваюць сотні тысяч турыстаў з усяго свету. Вандроўнікаў прываблiваюць перш за ўсё велічны замак, шэрыя раманска-гатычныя муры якога паўсталі яшчэ ў XIII стагоддзі, ды касцёл Св. Яна Хрысціцеля з надзвычай густоўна выкананымі новагатычнымі інтэр'ерамі. У раперсвільскім замку зараз размяшчаецца польскі музей — выключна плённы вынік польска-швейцарскага ўзаемадачынення і сяброўства.

Польскі музей у Раперсвілі мае даўнюю гісторыю. Ён быў заснаваны яшчэ ў 1870 годзе графам Уладзіславам Броэль-Плятарам і яго жонкай Караліннай, магілу якіх можна пабачыць сёння на замкавым дзядзінцы. Упершыню пра існаванне раперсвільскага музея мне давялося даведацца некалькі гадоў назад, калі чытала ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь пратаколы пасяджэнняў Віцебскай навуковай архіўнай камісіі (ВНАК). Пазачарговае пасяджэнне азначанай камісіі было склікана 20 траўня 1913 года з нагоды таго, што захавальнік музея ВНАК Канстанцін Змігродскі атрымаў прапанову заняць пасаду дырэктара "Польскага нацыянальнага музея ў Раперсвілі" і збіраўся выправіцца ў далёкае падарожжа да Швейцарыі. Віцебскі музейшчык, які да таго ж нядрэнна маляваў, мусіў змяніць былога дырэктара Уладзіміра Ружыцкага, які выконваў свае абавязкі з 1899 па 1914 год.

На пачатку XX стагоддзя раперсвільскі музей і бібліятэка ўжо валодалі знанымі калекцыямі. Бібліятэчныя каштоўнасці ў сваёй кнізе "Зборы раперсвільскай бібліятэкі", якая выйшла ў Варшаве ў 1929 годзе, апісаў А. Левак. Музей меў шырокую вядомасць на эміграцыі як захавальнік польскага нацыянальнага духу і патрыятычных традыцый. "MAGNA RES LIBERTAS" ("Вольнасць — вялікая рэч") — гэтыя словы былі выбіты на калоне, усталяванай па ініцыятыве графа Плятара побач з замкавымі мурамі яшчэ ў 1868 годзе да 100-гадовага юбілею Барскай канфедэрацыі. У 1897 годзе ў адной з замкавых вежаў быў створаны маўзалей сэрца Тадэвуша Касцюшкі, дзе захоўвалася (да 1927 года) сімвалічная урна, перанесеная зараз у музей Касцюшкі ў горадзе Салюры.

Славутыя раперсвільскія зборы амаль цалкам загінулі ў гады другой сусветнай вайны. Новы музей паўстаў у 1975 годзе. На працягу ўжо двух дзесяцігоддзяў сюды зноў сцякаюцца памяткі гісторыі і культуры народаў Рэчы Паспалітай, ахвяраваныя галоўным чынам польскімі эмігрантамі, як гарох, рассыпанымі па ўсім свеце. Аглядаючы сучасную экспазіцыю, знаходзіш у ёй прыкметы ўсё таго ж польскага патрыятычнага духу, які іншым разам жывіцца выразна вызначанымі рэаліямі іншых, у тым ліку і беларускай, культур. За шклом музейнай вітрыны — "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі", выдадзеная на лаціне ў 1578 годзе ў Кракаве веронцам па паходжанні Аляксандрам Гваніні, пра 10 гадоў службы якога ротмістрам віцебскага замка, што ўзначальваў атрад з 500 чалавек, у анатацыі не сказана ні слова. У другой вітрыне — выключнай захаванасці старасвецкія паясы з мастацкай калекцыі вялікашаноўнага пана Анджэя Цеханавецкага з Лондана, якія, нягледзячы на выразна бачныя на іх вытканыя кірылічныя надпісы "СЛУЦКЪ", турыстычны даведнік прэзентуе свету як "польскія кунтушовыя паясы, тканыя золатам і срэбрам".



З Раперсвіля ў Віцебск разам з іншымі памяткамі падарожжа я прывезла паштоўку з каляровай копіяй партрэта Т. Касцюшкі пэндзля прыдворнага мастака караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага Вінцэнта Лесёра, якую ў нас не так проста знайсці нават пры вялікай патрэбе. Напэўна, таму, што апошняя акалічнасць аказваецца ў нас магчымай, пра Беларусь так мала ведаюць у свеце.

* * *

Швейцарыя — краіна гор на даляглядах, кветак на фасадах дамоў, гадзіннікаў у вітрынах магазінаў і неверагоднай колькасці геральдычных выяў паўсюдна. Будзённыя гарадскія краявіды насычаны не дакучлівай кідкай рэкламай тавараў, а рознакаляровымі сцягамі ды сцяжкамі — краіны, кантона, горада, іх блізкіх ды далёкіх суседзяў. На прыбрамных слупках прыватных віл — уласныя сямейныя гербы, у дварах найбольш патрыятычна скіраваных грамадзян — чырвона-белыя сцягі Гельвецыі на высокіх металічных флагштоках.



Напэўна, самім швейцарцам надакучвае празмерная колькасць геральдычных выяў на паштоўках, значках, паперы, у якую вам загорнуць кніжку ў кнігарні, размаітай сувенірнай прадукцыі, якой стракацяць вітрыны вялікіх і зусім маленькіх крамаў. Аднак воку беларуса назіраць усю гэтую "празмернасць" усцешна з прычыны настальгічнага недахопу аналагічнага відовішча на Радзіме.

* * *

Каб прасцей было адказваць на мае пытанні, на нашую выправу да Люцэрна спадарыня Моніка прыхапіла з сабою даведнік па горадзе, выдадзены ў 1896 годзе. Гэтая прыгожая кніжачка кішэннага фармату з інфармацыяй і графічнымі выявамі мясцовых славутасцей выглядала яўнай прыкметай стабільнасці швейцарскага жыцця. Даведнік аказаўся цалкам прыдатным для карыстання, вельмі няшмат помнікаў за гэты час зніклі ці істотна змянілі сваё гістарычнае аблічча. У Швейцарыі любяць і па-сапраўднаму шануюць даўніну, заўсёды вельмі тактоўна дапасоўваючы да яе новыя будынкі ці элементы постмадэрнавых інтэр'ераў. "HELVETIA PATRIA" — гэтыя словы я неаднойчы бачыла накрэсленымі на сучасных фасадах прыватных дамоў. Яны сапраўдны дэвіз швейцарцаў, які вызначае галоўную сутнасць іх адносін да сваёй зямлі і сваёй дзяржавы.

Адзін з самых кранальных помнікаў, якія мне даводзілася бачыць у сваім жыцці, знаходзіцца ў Люцэрне. Ён прысвечаны швейцарцам, што загінулі на чужыне, служачы ў наёмным войску. На стромым схіле гары высечаны грот даўжынёю 14 метраў, у якім змешчана фігура смяротна параненага льва, што апошнім рухам свайго магутнага цела захінае шчыт з каралеўскімі лілеямі Бурбонаў. Помнік быў выкананы ў 1821 годзе па мадэлі Тарвальдсена, і пад ім на скале высечаны імёны тых, хто загінуў у 1792 годзе, абараняючы насельнікаў палаца Цюільры ад народнага гневу.

Побач з помнікам — колішні гарадскі сад, а зараз музей Глечаргартэн. Пад адкрытым небам у ім экспануюцца надзвычай цікавыя прыродныя помнікі — так званыя "млыны" ледавіковага перыяду, якія ўяўляюць сабой вялізныя "дзіркі", выкручаныя ў горных пародах "жорнамі" валуноў, што траплялі ў невялікія натуральныя заглыбленні рэльефу падчас адыходу ледавіка. На фотаздымках гэтыя "млыны", адразу страціўшы сваю маштабнасць, выглядаюць нейкімі вычварнымі кампазіцыямі мастакоў-авангардыстаў.

Дзякуючы мяккаму клімату і ўдаламу месцазнаходжанню на беразе аднаго з самых прыгожых у Швейцарыі азёр, а таксама цудоўнай панараме, якую ствараюць горы Пілат і Рыгі-Кульм, Люцэрн даўно стаў улюбёным месцам наведвання турыстаў. У старой частцы горада існуе шмат памятак даўніны, пачынаючы ад драўлянага моста XIV стагоддзя праз раку Рэйс (самага старадаўняга збудавання такога кшталту ў Цэнтральнай Еўропе) да шэрага гарадскіх камяніц правабярэжжа, кожная з якіх — узор дойлідства сваёй эпохі і прыкладных адносін да сябе з боку сучасных уладароў.

На беразе Фірвальдштэцкага возера ў Люцэрне мяне чакала адно прыватнае адкрыццё: аказваецца, лебедзі — не такія грацыёзныя птушкі, як я думала раней, бо ніколі не бачыла, як яны перавальваюцца з нагі на нагу падчас шпацыру па набярэжных.

* * *

Берн — галоўны горад аднайменнага кантона і сталіца Швейцарскай канфедэрацыі, якая носіць свой ганаровы тытул з 1884 года. У адрозненне ад іншых гарадоў, якія давялося пабачыць, вуліцы старой часткі Берна правільна распланаваны і аблямаваны радамі масіўнай пабудовы дамоў, што надаюць гораду строгі і велічны выгляд. У Швейцарыі кветкі на фасадах дамоў — з'ява абавязковая, прычым кожны гаспадар імкнецца перасягнуць астатніх у іх колькасці, рознакаляровасці і ступені экзатычнасці. Шэравата-зеленаватыя фасады бернскіх камяніц упрыгожаны паясамі адных толькі пунсовых кветак, што пакідае ўражанне не аднастайнасці, а хутчэй вытанчанасці і шляхетнасці. Магчыма, таму бернцы і атрымалі прыз за свае кветкі на адным са шматлікіх конкурсаў.

Стары горад размешчаны на высокім (30—40 метраў) скалістым плато, якое амывае рака Аара. Большасць сярэднявечных пабудоў была знішчана тут вялікім пажарам 1405 года, у хуткім часе пасля якога была ўзведзена ратуша і вежа з гадзіннікам, фігуркі якога рухаюцца два разы на суткі і да нашага часу. Нязвыклым і вельмі каларытным упрыгажэннем вуліц з'яўляюцца шматлікія фантаны ў стылі Адраджэння, упрыгожаныя арыгінальнымі статуямі, што паходзяць пераважна з XVI стагоддзя. Герб Берна ўтрымлівае выяву мядзведзя, і ў так званым мядзведжым яры ва ўсходняй частцы горада з даўніх часоў паводле старадаўняга звычаю ў асобным памяшканні, дасягальным для публікі, знаходзяцца некалькі гэтых жывых уладароў лесу.

Нашымі гідамі па Берне былі надзвычай сімпатычныя людзі — малады швейцарскі славіст Крыстаф фон Верт і яго жонка Малгажата, ураджэнка Варшавы. Крыстаф мае ўстойлівую цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі, піша навуковую працу, у якой разглядае гістарычную структуру гарадоў Рэчы Паспалітай, і ўжо аднойчы ўдзельнічаў у працы навуковай канферэнцыі ў Гродне. Ён мае намер далей пашыраць свае кантакты з Беларуссю і паглыбляць свой досвед пра яе.

Няма нічога больш прыемнага, чым сустрэць у далёкай краіне людзей, родных па сваіх зацікаўленнях, адчуваннях, успрыняцці свету. Сябры нашага маленькага гаманлівага таварыства на вуліцах Берна адчувалі, здаецца, шчырую ўзаемную прыемнасць ад сустрэчы, сумеснага баўлення часу ды бясконцых размоў. Спасціжэнне іншай краіны праз пасрэдніцтва міжасабовых кантактаў — справа, безумоўна, вартасная, удзячная і амаль што цалкам самадастатковая.

* * *

Мой шлях дадому палягаў транзітам праз венскі аэрапорт. З вышыні птушынага палёту Аўстрыя нагадвае вялікі габелен, вытканы з акуратных прастакутнікаў зялёнага, карычневага ды бэзавага колераў. На маё здзіўленне, аказалася, што гэткімі ж самымі фарбамі вызначаюцца і палі ў ваколіцах Мінска, а бэзавы колер, паходжанне якога над Аўстрыяй я ніяк не магла зразумець, — звычайны колер раллі, ад якой адбіваюцца сонечныя промні. Падумалася, што прыродная аснова нашага жыцця ў Беларусі — гэткая самая, еўрапейская, а вось якасць і ўзровень жыцця — плён здаўна існуючых грамадскіх адносін, нашага дзеяння або бяздзеянне ў сённяшні момант.

Бывай, цудоўная краіна Гельвецыя! Я захаваю пра цябе і тваіх насельнікаў самыя цёплыя ўспаміны. У цябе ёсць чаму павучыцца, і таму — GLORIA PATRIA!

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

Заканчэнне.
Пачатак у № 44.

**НА ЗДЫМКАХ: Вінцэнт Лесёр (1745—1813). "Тадэвуш Касцюшка". Мініяцюра са збору польскага музея ў Раперсвілі. Ахвяраванне графа Артура Тарноўскага з Дзікова; фантан "Самсон" у Берне. 1544 год.**

*ТВОРЦЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА*

# ДАРОГА ЭДВАРДА ВАЙВАДЗІША

**Упершыню пра Эдварда Вайвадзіша згадаў "Голас Радзімы" на пачатку 1990 года, калі разам з прадмовай Сяргея Панізьніка была надрукавана цэлая старонка вершаў гэтага самабытнага паэта з беларускага Прыдзвіння ў Латвіі. Затым ужо з'явіліся і іншыя публікацыі ў іншых перыядычных выданнях. Дзякуючы першаадкрывальніку і даследчыку культурных аблогаў беларускай дыяспары ў Латвіі паэту Сяргею Панізьніку, Беларусь уведала, што ў яе пад бокам, у памежнай Латгаліі, нашы суайчыннікі стварылі багатую духоўную спадчыну. Большасць з паэтаў беларускага Прыдзвіння ўжо адышла ў той свет. Эдвард Вайвадзіш, відаць, апошні з магікан нашага адраджэння. Праз колькі месяцаў яму споўніцца 100 гадоў. Ён і цяпер жыве ў сваіх Вайвадах, блізу мяжы з Беларуссю на беразе цудоўнага возера; нягледзячы на век і розную немач, піша вершы. Бадай, што лепшым падарункам да свайго юбілею ён лічыць выдадзеную навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны ў серыі "Творцы беларускага замежжа" кніжку яго паэзіі.**

**Зборнік выдадзены коштам Францішка Бартуля, колішняга вучня Эдварда Вайвадзіша. Укладанне, рэдагаванне і каментарый зрабіў Сяргей Панізьнік.**

**Змяшчаем некалькі вершаў Эдварда Вайвадзіша (на 8-й стар.), напісаных у апошнія гады, і заключны артыкул Сяргея Панізьніка.**

# ЖАЛУДЫ ПАД ВЕКАВОЮ КРОНАЙ

Над вёскай Латышы заходзіла сонца. А раніцою са свайго хутара Бабышкі я йшоў туды ў школу і ня думаў, што ўсьлед за тым дзяцінным сонцам праляжа дарога майго высьведу — праз Латышы і Друю на райнісаўскае Латгале, на нявызнаны мацярык беларускасьці, на сумежжа крывіцка-балцкай лучнасьці, беларуска-латышскіх гістарычных стасункаў.

Усьмешна, але на Віленшчыне нашымі літаратурнымі "кротусамі" вызнана ўсё: кожны завулак Вільні "вынюханы" дасьледчыкамі, вядома, чым частаваліся "нашаніўцы", за якім вуглом стаяў шпік, у якой камеры сядзеў Максім Танк са сваімі аднадумцамі.

І чым далей я ішоў уздоўж Дзьвіны-Даўгавы, тым выяўней адкрывалася для мяне прастора культурнай жыцьцядзейнасьці балткрэваў — невылюдзелых беларусцаў. Terra incognita! Аказваецца, Латгальскі край выбраў сабе за апякунку сьвятую Еўфрасіньню Полацкую. У найменьні Краславы гучыць яшчэ адно полацкае імя — Гарыслава... Колькі славы, столькі й гора займела задзьвінская зямля і тамтэйшыя людзі. Пятро Сакол, відаць, нездарма напісаў такія радкі ў вершы "Латгалія":

**Вось яна — бабылка безталанная —**
**Абабраная і Богам і людзьмі,**
**Ўсімі кінутая, усімі пагарджаная,**
**Абсьмяяная ўласнымі дзяцьмі!**




Але гэта былі хвіліны роспачы. Пасьля ўтварэньня таварыства "Бацькаўшчына" латвійскія беларусы, дзякуючы падтрымцы Райніса, змаглі разгарнуць вялікую культурна-асьветную дзейнасьць.

Абуджаныя карэнныя жыхары Латвіі выявілі не абы-якую творчую актыўнасьць. Праз школы, гімназіі таварыства "Бацькаўшчына" выхоўвала асьветнікаў-будзіцеляў, шукала таленты — і яны паказалі сябе. Вось толькі некаторыя імёны, якія пакінулі асабліва значны сьлед. Рэжысёр Я. Камаржынскі, паэты Пятро Сакол (Масальскі), Лясная Кветка (Валянціна Казлоўская), Эдвард Вайвадзіш, Мікола Талерка, Вера Гаротная (Вайцюлевіч), празаік Віктар Вальтар, мастакі Міхась Калінін, Пятро Мірановіч, Аркадзь Салаўёў... Гадаванцы І. Краскоўскага, С. Сахарава, П. Мядзёлка, К. Езавітава (ім хоць і нядоўга дапамагалі М. Гарэцкі, І. Дварчанін, У. Жылка...) упоўніцу паслужылі Беларускаму Адраджэньню. Іх культурны "ўраджай" — у архівах, музеях, розных запасьніках Рыгі, Прагі, Браціславы, Нью-Йорка, Чыкага. Без вывучэньня іх творчай спадчыны з белымі плямамі застанецца мацярык беларускае культуры. І як тут яшчэ раз не падзякаваць нястомнаму Янісу Райнісу! Промні яго сонца, яго любові і сёньня жывяць дзейнасьць беларускіх суполак у Рызе, Даўгаўпілсе. Замест "Голасу Беларуса" сёньня ў Рызе выходзіць газета "Прамень", прадаўжальнікамі "Бацькаўшчыны" сталі "Сьвітанак", "Уздым", таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "Прамень".

Ужо добрую чвэртку стагодзьдзя кіруюся я ўсьлед за сонцам — на сустрэчы з райнісаўскімі суайчыньнікамі. Паваенны лёс латвійскіх беларусаў у большасьці сваёй — трагічны. Многія зь іх падлеглі рэпрэсіям, выгнаньніцтву. Штодзённы страх перад пакараньнем за былую беларускасьць масьціў сьцяжынкі адрачэньня для тых, хто застаўся ў паваеннай савецкай Латвіі. І асабліва ўразілі мяне тры моманты духоўнага супраціву, адданасьці сьвятым парывам тых сонечных летаў. Былы актывіст "Бацькаўшчыны", мастак, актор, а ў час другой сусьветнай вайны штабны пісар Латвійскай дывізіі ў складзе Чырвонай Арміі ў сваім франтавым дзёньніку ад 29 сьнежня 1944 года сам сабе патаемна прызнаваўся: "Згадваецца мая Рыга 1931—1932—1933-га гадоў. Прыгожы, незабыўны час, столькі перажыта, столькі ўражаньняў, прыемных хвілінаў. І сапраўды, у тыя гады я і пачаў упершыню сваё жыцьцё. Яны і вызначылі накірунак усяго майго наступнага жыцьця: варта іх успамінаць і прадумваць".

Другое ўзрушэньне атрымаў ад жыцьцёвага подзьвігу Пятра Аляксандравіча Масальскага. Невылечна хворы, ён перастварыў зробленыя яшчэ ў 1935 годзе пераклады дайнаў і лёг на аперацыю толькі пасьля таго, як адаслаў рукапіс у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Пасьля сутворчасьці з Райнісам, з латышскім фальклорам, пасьля супрацоўніцтва з У. Глыбінным і А. Салаўём, пасьля "фільтрацыі" на Амуры ён у перапісцы з А. Мальдзісам, В. Сёмухам, аўтарам гэтых радкоў — адчуў, што "ня згублены для беларускай культуры" і апошні свой крок зрабіў да Беларусі: спраўдзіць сэнс свайго жыцьця.

А Эдварда Людвігавіча я амаль не згубіў на пакручастых дарогах. Ад Эміліі Данатаўны Казак-Казакевіч (1911—1989) з Індры даведаўся пра існаваньне настаўніка Вайвадзіша з Вайвадаў. Між намі пачалася перапіска, але хутка прыпынілася. Я заняўся кніжкаю пра Асьвейскую трагедыю і, згадваючы год нараджэньня майго адрасата, ня быў упэўнены, што змагу ўбачыць яго жывым. Выручыла мяне спадарыня Яніна Гекіш з Краславы, якая ў сваім цудоўным школьным музеі пра беларускае школьніцтва ў Латгале падарыла мне газетныя нататкі пра Эдварда Вайвадзіша. Майму здзіўленьню не было межаў, калі пасьля знаёмства зь яго вершамі я пачаў атрымліваць усё новыя і новы творы — удумныя, сур'ёзныя і ўсьмешныя, напоўненыя новым дыханьнем, быццам іх аўтар пачаў другое жыцьцё. Натхненьне не пакідала Эдварда Людвігавіча і пасьля цяжкіх ударaў лёсу: ён страціў нагу, пачаў губляць зрок. Яго дачка Ірэна аднаго разу пісала: "Бяссонымі начамі яшчэ зьяўляюцца ў яго вершы, а раніцаю мы іх перапісваем пад дыктоўку бацькі..."

Так што беларуская літаратура мае ў асобе Эдварда Вайвадзіша не толькі доўгажыхара, але і доўгатворцу!

Рыхтуючы гэты зборнік, я нядаўна зноў наведаў Вайвады. Пад кронаю вялізнага пасаджанага ім дрэва Эдвард Людвігавіч у яснай памяці гаварыў аб тых праўках, якія варта было б унесьці ў будучую кнігу, дзякаваў свайму вучню Францішу Бартулю за клопат пра яго. Пчала, якая вартавала свайго гаспадара, на ўсякі выпадак джгнула мяне за губу, хаця я і абяцаў усё зрабіць для таго, каб кніга яго жыцьця была паўнавартаснай.

У стагодзьдзе настаўніка, паэта, пчаляра ўвайшлі два маіх сьвядомых жыцьці. І для Эдварда Людвігавіча, сувязнога двух вякоў, спадкаемцы ахвярнікаў Беларускае Ідэі, я шчыраваў яшчэ і таму, што не пасьпеў або ня змог аказаць належную ўвагу другім яго паплечнікам, ваярам за роднае Слова. А на пчалу Эдварда Людвігавіча не крыўдую. У дарогу я атрымаў збан мёду. І шчыра прызнаюся: такога салодкага, лекавага ганарару ня меў я за ўсе мае папярэднія літаратурныя клопаты.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

# ДОБРААХВОТНЫ СЫН БЕЛАРУСІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У 1930 годзе М. Шчакаціхіна арыштавалі і выслалі ў Башкірыю. У 1937-м — новы арышт і новая ссылка. У 1940 годзе М. Шчакаціхін памёр у ссылцы ад сухотаў. Імя вучонага не ўспаміналася, а яго навуковая спадчына была недасягальнаю для даследчыкаў да 60-х гадоў. Першая і пакуль адзіная кніжка пра М. Шчакаціхіна "Хараство непазнанай зямлі" з'явілася ў 1967 годзе. Аўтар яе — слынны даследчык і адкрывацель забытых імёнаў спадар Арсень Ліс. Два гады таму перавыдадзеныя "Нарысы..." М. Шчакаціхіна.

І вось 100-годдзе выдатнага вучонага. Гучна шырокай грамадскасцю яно не адзначалася. Не пазначаная дата і ў календарах. Але грамадскасць навуковая прымеркавала да гэтае даты адмысловую канферэнцыю, якая праходзіла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Узровень яе быў годны падзеі, якая ўшаноўвалася. Без мітусні, няспешна яна працягнулася ад панядзелка, 30 верасня, да чацвярга, 3 кастрычніка, і мела апроч навуковых чытанняў шэраг найцікавейшых мерапрыемстваў: адкрыццё дзвюх выставаў і наведванне могілак у Маладзечне. Вось гэты апошні чын па значнасці сваёй быў, напэўна, найбольш важкім. На магілу, дзе знайшла вечны прытулак Ганна Раманава, жонка М. Шчакаціхіна, якую ён кахаў бязмерна, якой пісаў санеты, знаходзячыся ў прамерзлых скляпеннях белебееўскай турмы, на гэтую магілу была насыпана зямля, прывезеная з горада Белебея, што ў Башкірыі, дзе быў пахаваны вучоны. Сама магіла М. Шчакаціхіна ўжо страчана. Ніхто не змог яе адшукаць. Уразіла набажэнства каля цяпер ужо агульнай магілы — жонкі і мужа. Адпраўляў набажэнства бацюшка маладзечанскай Свята-Пакроўскай царквы Іван Міцько, айцец Іаан. Словы яго кароткай пропаведзі хвалявалі, беларуская ж гаворка, зусім не трасянка, была натуральнаю, не прыпасенаю для выпадку. Мо таму айцец Іаан так прачула казаў, што сам прайшоў шляхам рэпрэсіраванага вязня, спазнаўшы 19-гадовым хлопцам холад кайданоў на сваіх руках.

У той жа вечар у Маладзечне ўдзельнікі канферэнцыі пабачылі відэазапіс, зроблены гэтым летам у башкірскім Белебеі. Спадарыня Ірына Чэбан, супрацоўніца Нацыянальнага мастацкага музея, складальніца найпадрабязнейшай табліцы жыццяпісу М. Шчакаціхіна, першая з беларускіх даследчыкаў трапіла ў гэтую мясціну і зрабіла каштоўны запіс. Вочы прагна ўзіраліся на экран: дом, дзе жыў М. Шчакаціхін з сям'ёю; вуліцы, па якіх ён хадзіў; школа, дзе ён выкладаў нямецкую мову; аптэка, дзе ён вёў курсы лаціны... турма, дзе быў увязьнены і сядзеў у адзіночцы...

Дарэчы сказаць, не так даўно гэтую камеру хацелі было пераабсталяваць у службовае памяшканне, але адмовіліся: ніякае ацяпленне не здольнае прагнаць спрадвечны холад. Удалося спадарыні Чэбан знайсці асобаў, якія памятаюць М. Шчакаціхіна: адна — былая вучаніца школы, дзе ён выкладаў, другая — суседка. Што захавалася ў памяці? Яго заўсёдныя ветлівасць, добразычлівасць; акуратнасць і элегантнасць вопраткі, вельмі, аднак, паношанай; добрыя манеры... і выхаванасць ягоных малых дзяцей.

На канферэнцыю былі запрошаны Уладзімір Мікалаевіч, Аляксандр Мікалаевіч і Алена Мікалаеўна — дзеці вучонага. Сын Аляксандр з-за нездароўя не змог прысутнічаць. З вуснаў жа спадарыні Алены і спадара Уладзіміра прагучалі ўспаміны дзяцінства. Бацька запомніўся ласкавым і добрым, жартаўніком, але і строгім, калі справа тычыла ягонае працы. У доме было шмат кніг. Кожная рэч мела сваё месца. Катэгарычна забаранялася чапаць што-кольвек на рабочым стале. Але ж кнігі на ім былі такімі спакуслівымі. І калі якую-небудзь усё ж употай бралі рукі дзіцяці, то хуценька яна клалася назад дакладнютка, як ляжала. Іншым разам нават пальчык не здымаўся з таго месца. Ужо ў Белебеі сям'я жыла ў доме, што на завулку Беглым. І вось бацька ў каляднай паштоўцы, змайстраванай для дзяцей, пісаў: "Зьбеглая вуліца, ацалелы дом, Шчакаціхінятам".

Невялікая частка кніг з багатай бібліятэкі М. Шчакаціхіна, выданні з яго публікацыямі, друкаваныя крыніцы, якімі ён карыстаўся, прадстаўлены на выставе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Уражваюць шырыня і фундаментальнасць ягоных ведаў, а таксама бездакорная добрасумленнасць у спасылках на крыніцы.

Другая выстава, што адкрылася ў часе канферэнцыі, у першы яе дзень, падрыхтавана аддзелам старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. На выставе гэтай — творы старога беларускага іканапісу, даследаваныя М. Шчакаціхіным. Канешне, толькі частка і ў аднаўленым, рэстаўрыраваным выглядзе. Што ж высветліў вучоны? Аказваецца, нашы мастакі пісалі іконы, гледзячы на кніжныя гравюры, якія нярэдка былі творамі заходнееўрапейскай графікі. Перад вачыма ж маскоўскіх майстроў былі так званыя "прорысы". М. Шчакаціхін даводзіў, што абразы беларускіх іканапісцаў — творы прафесійнага мастацтва надзвычайнай каштоўнасці. Выстава ў музеі ёсць таму сведчаннем. Апроч іконаў і драўлянай скульптуры, на выставе паказаны найцікавейшыя архіўныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю вучонага.

Што да саміх навуковых чытанняў, то маю сведчыць: узровень прачытаных дакладаў быў вышэйшы за прыняты ў нас стандарт навуковай дабротнасці. У часе чытанняў нават развязваліся некаторыя з праблем. Спадарыня М. Ткачэнка з Пецярбурга, якая даследуе гравюру цудатворнага абраза Маці Божай свержанскай, прыгожай, як месяц, знайшла адказ на пытанне ў дакладзе калегі з Мінска, спадара А. Ярашэвіча. Вядомы даследчык М. Нікалаеў (Санкт-Пецярбург), для якога няясны герб на графічнай выяве аднаго з наваградскіх абразоў, палічыў прымальнай гіпотэзу спадара З. Яцкевіча (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь). Наогул, ёсць спакуса пераказаць змест большасці дакладаў, але гэта ўсё ж вельмі спецыфічныя тэмы, не для газетных старонак. Прывяду, аднак, думку мастацтвазнаўцы, спадарыні Т. Габрусь, метафізічнага плана, выказаную ў прадмове да даклада. Думка гэтая ў тым, што творчы пачатак М. Шчакаціхіна, схільнасць да розных відаў мастацтва і апантаная любоў да гісторыі былі перадвызначаныя касмічным законам. Шалі — яго задыякальны знак. Народжаны пад гэтым знакам — эстэт, ідэаліст. Пад Шалямі нарадзіліся Рэрых, Цвятаева, Драздовіч, Чурлёніс, Уайльд...

Істотны момант канферэнцыі: чытанні пачаліся з... даклада М. Шчакаціхіна. Так слушна можна трактаваць дакумент, прачытаны спадарыняй Высоцкай, доктарам мастацтвазнаўства, прафесарам. Гэта тэкст пратакола допыту М. Шчакаціхіна. У ім арыштаваны выкладае сваё крэда ў поглядах на навуку ўвогуле і на беларускае мастацтва ў прыватнасці. Гэты дакумент — яшчэ адно сведчанне таго, што Мікалай Шчакаціхін быў і застаецца найсумленнейшым вучоным чыстае красы. Гэты пратакол разам з іншымі дакументамі ўвойдзе ў зборнік матэрыялаў канферэнцыі.

Апроч згаданай вышэй якасці выступленняў адзначу яшчэ адну красамоўную дэталь, што тычыцца канферэнцыі. Кожны ўдзельнік ужо напачатку атрымаў камплект рабочых матэрыялаў, у тым ліку — тэзісы дакладаў. У наш час тэксты і тэзісы выступленняў з'яўляюцца значна і значна пазней. Гэта сведчыць пра ўмельства і добрасумленнасць тых, хто рыхтаваў канферэнцыю. Найбольшы клопат лёг на плечы Н. Высоцкай, за што ўдзельнікі і госці шчыра ёй дзякавалі. Ход канферэнцыі, яе канцэпцыя, сапраўды, прадуманыя грунтоўна, нават з натхненнем. Поспех яе тлумачу тым, што людзі, якія сутыкаюцца з творчасцю той ці іншай асобы, даследуюць яе, адчуваюць на сабе яе ўплыў, трапляюць у поле яе думак і пачуццяў, "праходзяць універсітэты", калі гэта асоба буйнога маштабу. Мікалай Шчакаціхін — з'ява гэтага шэрага.

Варта паглядзець яшчэ раз на ягоны твар. Выдатны партрэт: вытанчаныя рысы высакароднага інтэлігента, адзначаныя духам светлым... Хацеў бы ў кнігарнях бачыць у продажы такія партрэты.

І апошняе. У М. Шчакаціхіна ёсць трое дзяцей, сямёра ўнукаў, адзінаццаць праўнукаў і адзін праправнук. Робяцца захады, каб усталяваць мемарыяльную дошку на доме, дзе жыў вучоны ў Мінску, а ў кватэры адкрыць мемарыяльны музей.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ І НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАСЦЮМ

Альбомы беларускіх філатэлістаў папоўніліся за апошні час новымі цікавымі выпускамі пошты рэспублікі. Перш за ўсё засталіся задаволенымі калекцыянеры — аматары спартыўнай тэматыкі. XXVI летнія Алімпійскія гульні ў Атланце сталі ўжо здабыткам гісторыі. Але аб іх яшчэ будуць не раз гаварыць спецыялісты, спартсмены і нават палітыкі, ацэньваючы выступленні многіх нацыянальных каманд, у тым ліку і беларускай. Гэта былі першыя Гульні, у якіх зборная каманда Рэспублікі Беларусь выступала пад нацыянальнымі сімваламі, і першыя летнія Алімпійскія гульні, якім пошта рэспублікі прысвяціла серыю марак. На чатырох каляровых мініяцюрах з алімпійскай эмблемай — пяццю алімпійскімі кольцамі — і лічбай "100" — стагоддзе Алімпійскіх гульняў — паказаны гімнастка, штурхальнік дыска, штангіст і барцы. Серыя выпушчана з блокам. На малюнку блока гімнаст, на марцы блока — стралок. Як вызначылі філатэлісты, мастак паказаў на марках тыя віды спорту, у якіх беларускія спартсмены маглі разлічваць на першыя ці прызавыя месцы. Але, на жаль, надзеі аўтара марак, шматлікіх балельшчыкаў, у тым ліку і філатэлістаў, не спраўдзіліся. У дзень







выхаду серыі ў паштовае абарачэнне на Мінскім паштамце было арганізавана спецыяльнае гашэнне. Быў таксама выдадзены спецыяльны канверт (мастак Л. Варэца) з адлюстраваннем чашы з алімпійскім агнём. Гашэнне спартыўнай серыі рабілася штэмпелем з адлюстраваннем алімпійскага факела і подпісам "XXVI летнія Алімпійскія гульні. Атланта-96. ДП. Мінская пошта. 19.07.96". Першая беларуская алімпійская серыя марак і першы алімпійскі штэмпель увайшлі ў гісторыю беларускай філатэліі.

У ліпені мінулага года (13.07.95) пошта рэспублікі выпусціла першую частку запланаванай серыі марак аб народных касцюмах. Тады ўбачылі свет маркі, што паказвалі мотальскі, ваўкавыска-камянецкі і пухавіцкі строі. Праз год выйшла ў паштовае абарачэнне другая частка гэтай цікавай серыі — тры маркі і блок. Гэтым разам на паштовых мініяцюрах паказаны кобрынскі, давыд-гарадоцка-тураўскі і капыльска-клецкі строі. На ўсіх трох мініяцюрах указана, што гэта касцюмы XIX стагоддзя. На выпуску 1995 года гэтага ўдакладнення няма. Няма гэтага ўдакладнення і на марцы блока, толькі сказана, што паказаны нараўлянскі строй. Асаблівасць маркі блока яшчэ ў тым, што на ёй адлюстраваны толькі жаночы касцюм. На марках жа першай і другой серыі дэманструюцца жаночыя і мужчынскія нацыянальныя касцюмы. Усё поле блока займае беларускі арнамент у чырвона-шэрых тонах. Побач дадзена назва ўсёй серыі "Беларускі нацыянальны касцюм". Серыя арыгінальных мініяцюр выклікала цікавасць у калекцыянераў. Яна прыгожая, арыгінальна афармлены блок. Але ў той жа час выклікала і нямала пытанняў у філатэлістаў. Да арыгінальнай серыі пошта не выдала спецыяльнага канверта, тэматычна звязанага з маркамі. Да першага выпуска гэта было зроблена. І натуральна, што гашэнне на спецыяльным канверце крыху цікавейшае. Не рашылася пошта і на спецыяльны штэмпель да тэматыкі выпушчанай касцюмнай серыі. Маркі былі пагашаны, як і ў мінулым годзе, тым жа безаблічным, стандартным невыразным штэмпелем, якім пошта карыстаецца для гашэння не адзін год.




Выдала пошта рэспублікі і некалькі мастацкіх канвертаў. Сёлета споўнілася 55 гадоў абароны Брэсцкай крэпасці. Да гераічнага юбілею быў выдадзены мастацкі канверт з малюнкам Холмскіх варот у агні. Надпіс на канверце: "55 год абароны Брэсцкай крэпасці". Выпуск афармляў мастак У. Сытчанка.

Летам 1957 года ў Атаве (Канада) па рэкамендацыі XIV кангрэса Сусветнага паштовага саюза было прынята рашэнне аб штогадовым правядзенні Міжнароднага тыдня пісьма, які звычайна праводзіцца ў пачатку кастрычніка з такім разлікам, каб ён захопліваў 9 кастрычніка — дзень стварэння Сусветнага паштовага саюза. Першы раз у Беларусі Тыдзень пісьма адзначаўся ў 1957 годзе. Амаль штогод у Тыдзень пісьма праводзіліся спецыяльныя гашэнні, выпускаліся канверты. Вось і сёлета да святочнага паштовага тыдня выпушчаны спецыяльны канверт у Гомелі. На яго малюнку дакументальная фатаграфія — філатэлісты ля альбома з маркамі. Гэтым выпускам адзначана "35 год народнаму клубу філатэлістаў "Гарызонт" абласнога Дома настаўніка. Гомель".

**Леў КОЛАСАЎ.**

## ТВОРЦЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

**Эдвард ВАЙВАДЗІШ**

### ПРЫДРУЙШЧЫНА

З Табой заўсёды ў згодзе
І мой быў лёс:
Пры ўсякай непагодзе
Цягнулі воз.

Баліць душа і сэрца
За многіх з нас,
Каму уволю перцу
Паддаў калгас, —

Калі жыцця аснову
І сэнс вякоў
Мянялі... Зь імі й мову
Сваіх бацькоў.

Пакутую душэўна,
Боль не забыў...
Хачу спытацца гнеўна:
А гонар быў!

Згубіў ты мову матчыну —
Калыскі сьпеў.
Каму прадаў ты спадчыну,
Што ў сэрцы меў!

Напэўна, пакаленьні,
Што ўжо ідуць,
Падымуць нас з каленьняў...
І праклянуць.

*1991.*

### НЕ СУМУЙ

Не сумуй, маркотны браце,
Што жывём у зімнай хаце.
Бо няма удосталь дроў,
Каб сагрэць студзёну кроў.

І не ганьбі сваю долю,
Бо ўсяго сягоньня ўволю.
Вунь — гарэлкі поўны склад:
Пі свабодна, дэмакрат!

Не сумуй, што хлеб нясмачны,
Ён ня жытні, болей — ячны.
А скарынка — толькі ў суп,
Бо зацвёрда на наш зуб.

Не сумуй, што целам кволы.
Дзякуй Богу, што не голы:
І апранут, і абут,
Для жытухі маеш кут.

Не сумуй, што з кніжкі ўклады
Захапілі ў рукі ўлады,
Што пайшлі за грош рублі:
Мы ж на старасьць берaглі!

Не кажы: благая ўлада.
Хто ж знайшоў там казнакрада!
Ён жыве як той павук,
Пхне даляры ў капшук.

Не сумуй, загляне сонца
І у нашае ваконца.
Дзевяноста новы год
Пераплавіць зімні лёд!

*12.01.1995.*

### НА СТАРАСЬЦЬ

Вітаю я цябе, зямелька!
Вясна вяртаецца да нас —
Пацешыць родную сямейку
У гэты вельмі сумны час.

Гляджу: падрос лясок прыгожы
(Я ўзгадаваў уздоўж мяжы).
Мяне ён радаваў, сьвет Божы:
Стаяў як страж на рубяжы.

Але — зарытыя канаўкі,
Задратаваныя, ў быллі.
Пазараслі зямлі акраўкі,
Якія пожнямі былі.

Разбураны ўсе пабудовы:
Да парахні давёў калгас.
А збудаваць стадолак новы —
Ужо няма патрэбы ў нас.

Як не было — вясна вярнула
Хоць нешта, да чаго прывык.
Душу і сэрца зварухнула, —
І старасьць чуе сьветлы зык!

*1995.*

### МАЯК

Ночкай цёмнаю на моры
Сьвеціць усягды маяк.
Як той страж, ён у дазоры, —
Каб не страціў шлях марак.

Стане мора неспакойным, —
Стогне, пеніцца, шуміць...
І — у дружбе з ветрам моцным —
Пачынае ў бераг біць.

Страшна ў моры ў навальніцу.
Неспакой для рыбакоў:
Вецер гоніць хваль вадзіцу,
Б'е сьцюдзёнкай маракоў.

Гром над імі і маланка,
Льецца дождж і сыпле град.
Невясёлая гулянка.
І душа чакае страт.

Хвалі грозныя, як горы.
Разьбівае іх маяк.
Чарнасіла нікне ў моры:
Не зваліць маяк ніяк!

І маяк здалёку сьвеціць...
Так бывае заўсягды:
Сьвет людзей бязбожных лечыць
Згадкай Бога ў час бяды.

Хай праменьчык блаславены
Сьвеціць кожнаму ўначы.
Зможа Бог — маяк штодзенны —
Ў паняверцы ўберагчы.

*1996.*



Гімнастычная школа "Кольцы славы" добра вядомая. Больш чым за 25 гадоў работы з яе сцен выйшла многа вядомых майстроў спартыўнай гімнастыкі, чэмпіёнаў свету, Еўропы, пераможцаў буйных міжнародных спаборніцтваў. Гордасць школы Іван Іванкоў — абсалютны чэмпіён свету і Еўропы, прызёр і пераможца многіх міжнародных спаборніцтваў. Так што юным выхаванцам школы ёсць на каго раўняцца. Цяпер тут займаецца больш за дзвесце хлопчыкаў. А ў дашкольным клубе "Здаравяк" самыя маленькія — пяцігадовыя дзеткі спасцігаюць азы гімнастыкі. Вядома, не ўсе яны стануць майстрамі і чэмпіёнамі, але затое вырастуць моцнымі і здаровымі.

НА ЗДЫМКУ: выхаванцы клуба "Здаравяк".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1186.
Падпісана да друку 4.11.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.